
Драўляныя скарбы ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Арлянскія справы ➔4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 41 (3257) Год LXIII

Беласток, 14 кастрычніка 2018 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# «Курантам» — 15 гадоў

■ Беларускі мужчынскі калектыў «Куранты», (мастацкі кіраўнік Аліна Негярэвіч і акампаніятары Юры Шарко і Мікола Сідарук)

Беларускі мужчынскі калектыў «Куранты» дзейнічае пры Бельскім доме культуры ўжо 15 гадоў. Спевакі і іх мастацкі кіраўнік Аліна Негярэвіч 29 верасня ўрачыста адзначылі свой юбілей. Юбіляры займальна, стройна і на высокім мастацкім узроўні запрэзентаваліся перад шматлікай публікай, якую захапілі моцнымі галасамі. Пачалі яны свой выступ песняй «Мая маленькая айчына» на словы Віктара Шведа. Падчас юбілею бельскія «Куранты» займальна спявалі беларускія народныя песні ў апрацоўцы Аліны Негярэвіч, праспявалі таксама па некалькі песень на расійскай і польскай мовах. У перапынках паміж выступамі «Курантаў» юбілейны канцэрт узбагацілі Народны хор народнай песні «Вербніца» Пружанскага палаца культуры, беларускі хор «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры і калектыў Пачатковай школы № 4 у Бельску-Падляшскім (разам з вучаніцамі спявала іх настаўніца музыкі Аліна Негярэвіч). Усе выступы ўзнагароджваліся бурнымі апладысментамі. Госці юбілейнага канцэрта павіншавалі членаў калектыву «Куранты» і іх шматгадовага мастацкага кіраўніка Аліну Негярэвіч і падарылі юбілярам многа кветак. Да іх далучаліся шматлікія любіцелі рэпертуару «Курантаў».

Паколькі адбываецца мадэрнізацыя будынка Бельскага дома культуры, святкаванне праходзіла ў актавай зале Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Тадэвуша Касцюшкі ў Бельску-Падляшскім. Пра калектыў «Куранты» і яго рэпертуар распавядаў вядучы юбілейны канцэрт журналіст Радаслаў Дамброўскі. Дырэктар БДК Альжбета Фіёнік пазнаёміла сабраных з узнагародамі, якія былі прысвоены «Курантам». Залатыя крыжы заслугі ад імя прэзідэнта РП Анджэя Дуды падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі ўручыў мастацкаму кіраўніку калектыву «Куранты» Аліне Негярэвіч (атрымала таксама ўзнагароду бельскага бургамістра) і яе мужу Андрэю Негярэвічу. Аліна Негярэвіч займаецца з «Курантамі» і гайнаўскім беларускім хорам «Рэха пушчы», у якім таксама спявае Андрэй Негярэвіч. «Куранты» атрымалі калектыўную ганаровую адзнаку Падляшскага ваяводства, падпісаную маршалкам Ежы Ляшчышкам. «Курантам» важнымі былі віншаванні і пажаданні, з якімі падыходзілі да спадарыні Аліны Негярэвіч і спевакоў госці і прыхільнікі вакальнага мастацтва юбіляраў. Аб ролі «Курантаў» у культурнай панараме Падляшскага ваяводства гаварылі дырэктар Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоль Вап, ваяводскі радны Валянцін Карыцкі, віцэ-старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень і самаўрадаўцы Бельшчыны, бельскі віцэ-стараста Пётр Божка, бургамістр Яраслаў Бароўскі, старшыня Рады горада Бельск-Падляшскі Ігар Лукашук, войт Бельскай гміны Раіса Раецкая і дырэктар БДК Альжбета Фіёнік.

Калектыў «Куранты» ўзнік у пачатку 2003 года. Яго першымі дырыжорамі былі Міхал Жаўрыд з Гродна і Аліна Кос. Аліна Негярэвіч стала мастацкім кіраўніком «Курантаў» у лістападзе 2003 года і з'яўляецца ім па сённяшні дзень. Мужчыны з «Курантаў» многа выступалі на Падляшшы падчас беларускіх і іншых мерапрыемстваў, спявалі ў іншых мясцовасцях Польшчы. Беларускі мужчынскі калектыў «Куранты» часта выязджаў у Рэспубліку Беларусь, дзе спяваў на фестывалях, канцэртах і аглядах. Выступалі яны на «Славянскім базары» ў Віцебску, на Міжнародным фестывалі музыкі «Вянок сяброўства» ў Бабруйску, на З'ездзе беларусаў свету ў Мінску і на Сустрэчах «Гродна-Беласток» у Гродне. Мужчынам з «Курантаў» таксама добра запамяталіся выступы на «Моталькіх прысмаках» у Моталі і канцэрт у Светлагорску.

— У Рэспубліку Беларусь мы ездзім як да сябе дамоў. Апошнімі гадамі выступалі ў Пружанах, Кобрыне і Слоніме. У Беларусі нас вельмі добра прымалі. Мы амаль штогод выступалі на фестывалі «Беларуская песня» і часта займалі першае месца, — гаварылі мужчыны з «Курантаў».

Удзельнікі калектыву палічылі, што на працягу 15 гадоў дзейнасці «Куранты» выступілі больш за 350 разоў. Атрымліваецца, што спявалі яны перад публікай прыблізна два разы на месяц.

— «Куранты» — беларускі калектыў. Спяваем перш за ўсё беларускія песні. У нашым рэпертуары ёсць таксама песні на расійскай, польскай і ўкраінскай мовах. Раней наш калектыў выдаў кампакт-дыск «Чорны воран», а цяпер на пятнаццацігоддзе дзейнасці выйшаў дыск «Куранты». Многа твораў з новай кружэлкі выконваем на юбілейным канцэрце, які мы пачалі песняй «Мая маленькая айчына» на словы нашага паэта Віктара Шведа. Я саставіла музыку на мужчынскія галасы. У нашым рэпертуары ёсць таксама іншыя песні, на вершы Віктара Шведа — «Валянціна» і «Суніцы». Я скампанавала музыку да вершаў і так паўсталі нашы аўтарскія эстрадныя творы. Я апрацоўваю на мужчынскія галасы таксама народныя песні, якія выконваем. Я рада, што пабольшала колькасць мужчын у калектыве. Зараз выступае, разам са мной і музыкантамі, ажно 19 чалавек, — сказала мастацкі кіраўнік Аліна Негярэвіч.

Акампанемент для «Курантаў» на акардэонах і баяне састаўлялі ў мінулым Пётр Федарук, Грыгорый Таранта, Мікола Мяжэнны і здаўна састаўляюць Юры Шарко і Мікола Сідарук.

— Я быў ініцыятарам заснавання «Курантаў», але калектыў засноўвалі мы супольна. На першы дзень Хрышчэння Гасподняга ў 2003 годзе прыбылі да мяне Юры Антаненка, Юры Сцяпанаў, Анатоль Максімюк і Вячаслаў Муха і мы тады абмеркавалі ідэю заснавання мужчынскага калектыву. Спачатку нас спявала менш, але пасля пабольшала. Адны спынялі ўдзел у калектыве, а іншыя папаўнялі наш састаў. У нашым калектыве добрая сямейная атмасфера, з намі займаецца вопытны і здольны мастацкі кіраўнік Аліна Негярэвіч і таму большае калектыў спевакоў у калектыве. У нас цікавы рэпертуар, які найчасцей выконваем на тры галасы, — распавёў Павел Лемеш з Бельска-Падляшскага. — Мы хацелі, каб назва нашага калектыву не была паўсюднай. Я знайшоў слова «куранты», што абазначала гадзіннік вялікіх памераў, размешчаны на будынку. У Бельску ёсць ратуша з такімі гадзіннікамі і мы ў 2004 годзе назвалі калектыў «Курантамі». Мы адкрыты на мужчын розных узростаў, якія хацелі б пачаць спяваць у мужчынскім калектыве. Апрача бальшчан спяваюць жа ў нашым калектыве два хлопцы з Тапаркоў, ці хлопец з Курашава.

— Перад сённяшнім юбілейным канцэртам у Бельску-Падляшскім адбыліся майстар-класы па спеве, у якіх прынялі ўдзел «Куранты», наша «Вербніца», «Рэха пушчы» з Гайнаўкі і вучнёўскі калектыў з Бельска. Мы рады, што маглі павучыцца эмісіі голасу, паводзін на сцэне і іншаму, што тычыцца выступаў перад публікай, — сказаў удзельнік «Вербніцы» Пружанскага палаца культуры.

— «Куранты» захапляюць сваімі моцнымі мужчынскімі галасамі. Перад калектывам ёсць будучыня, таму што ў ім спяваюць мужчыны ва ўзросе ад 19 гадоў, да сеніёрскага ўзросту, — гаварыла Вера Масайла з гайнаўскага хору «Рэха пушчы» і заадно мастацкі кіраўнік маладзёжнага музычна-тэатральнага калектыву «Званкі» з ГДК.

— Я амаль ад пачатку спяваю ў «Курантах». Пішу вершы па-беларуску, частка якіх друкавалася ў «Ніве». Цяпер склаў я словы да новай песні і нават запрапанаваў музыку да яе. Аліна Негярэвіч распісала музыку да майго твора і пачалі мы яе развучваць, — сказаў Ян Грыгарук.

— Я вельмі люблю спяваць. Спеў у маім жыцці вельмі важны. Свой запал рэалізую ў бельскіх «Курантах» і гайнаўскім калектыве «Рэха пушчы», — заявіў Андрэй Негярэвіч, узнагароджаны Залатым крыжам заслугі.

— Я пачаў спяваць у «Курантах» ва ўзросце 15 гадоў, будучы яшчэ вучнем гімназіі ў Чыжах, паколькі жыву ў Курашаве. Спяваў у калектыве падчас вучобы ў Бельскім белліцэі і маю намер спяваць у час вучобы ў вышэйшай навучальнай установе. Люблю спяваць і падабаецца мне спяванне ў мужчынскім калектыве, якое розніцца ад выступаў у іншых калектывах, — гаварыў Лукаш Філіманюк.

— Мы з братам Маркам спяваем у «Курантах» таму, што падабаецца нам мужчынскі спеў, а даязджаем на рэпетыцыі ажно з Тапаркоў, — заявіў Сцяпан Барона.

— Я выступаю ў «Курантах» з самага пачатку. Калі будзе здароўе, маю намер спяваць як найдаўжэй. Падабаецца мне атмасфера ў нашым калектыве і спяванне ў мужчынскай кампаніі, — сказаў Юры Антаненка.

Святкаванне ў актавай зале школы завяршылася салодкім пачастункам сабраных юбілейным тортам.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Замкі ля замкаў

З Менска мы выехалі пад абед. За акном аўтамабіля цудоўная беларуская восень з суквецвем пяшчотных колераў і велічнай задумлівасцю далягляду. Нават на дарогу Менск-Гародня глядзець не хочацца, хоць і будуюць яе бойка і, як кажуць людзі, якія ўсё ведаюць, на замежныя грошы.

А глядзець хочацца па баках, дзе рознакаляровасць фарбаў зачароўвае і запрашае да ўспамінаў юнацтва. А пахі... Выкапанай бульбай пахне нават у салоне аўтамабіля. Ды што там салон. Нават у цэнтры Менска пахне бульбай, яблыкамі, апаўшым лісцем... А неба... Якая цудоўная восень на Беларусі!

— Я то лепш лета люблю, — кажа мой прыяцель. — А восень дык не асаблівa. Як па мне, то хай бы лепш дзве вясны было, чым адна восень.

Вельмі часта прыходзіцца чуць такое меркаванне пра восень ад прадстаўнікоў майго пакалення. Доўга думаў над гэтым. Чаму многія так пра маю самую любімую пару году кажуць? Сам адказу не знайшоў. Адзін псіхолаг дапамог. Кажа, гэта псіхалагічная траўма дзяцінства. І звязаная яна напрамую з тым часам, калі не толькі ў хаце трэба было бульбу капаць, але і ў савецкай школе добрую палову восені дзяцей ганялі ў калгас на палявыя работы. Калгасаў нарабілі, а добрых калгаснікаў нарабіць аказалася куды цяжэй. Вось школьнікі і дапаўнялі восеньскі палявы пейзаж.

А восені ў часы нашага дзяцінства акурат на капанне бульбы былі даволі дажджлівымі. І не вельмі прыемна было капацца ў балоце, хварэць, ды і проста з неакрэпшым дзіцячым пазваночнікам цягаць кашы з бульбай на калгасныя машыны. Вось адтуль, як сказаў псіхолаг, у многіх на ўсё жыццё ўспрыманне восені папсавалася. Забралі ў вялікай колькасці людзей бальшавікі любоў да гэтае пары года.

Я то часта філоніў, уцякаў у лес і напэўна таму любоў да восені захаваў на ўсё жыццё. А вось тыя, каму больш залежала на адзнаках, маглі і паплаціцца любоўю да беларускай залаталіснай прыгажуні.

— А вось замкі я люблю ў кожную пару году, — кажа сябра і прапаноўвае павярнуць машыну ў Крэва. — Там пачалі ўжо рэстаўрацыю, добра было б паглядзець, ды фотак нарабіць, — тлумачыць.

І праўда, Крэўскі замак атачаны тэхнікай, плотам, па сярэдзіне стаіць кран і некаторыя вынікі яго працы ўжо заўважныя. Настрой падняўся і якая розніца, за еўрапейскія гэта грошы, ці за свае, галоўнае, што гістарычная спадчына ратуецца.

І нават прыбіральня стаіць, і на самым відным месцы. Усе ўмовы, як бы мовіць. Ды вось сходзіць у яе па натуральнай патрэбе аніяк не ўяўляецца мажлівым. На прыбіральні вісіць новенькі і даволі ўвесісты замок.

Я праз смех успамінаю стары анекдот, як мужык пабудаваў новую прыбіральню, а дзверы рабіць не стаў. І вось сусед пачынае пытаць яго:

— Мікола, а чаму ты ў прыбіральні дзвярэй не робіш?

— А што там красці? — адказвае той.

Ну а ў гэтай прыбіральні, відаць, ёсць што красці, раз яе зачынілі на замок. Ці можа ён толькі для рабочых, і яны не хочуць пускаць туды іншых сабе падобных з адпаведнымі праблемамі? Ну то куды ісці тым іншым? Турыстам, напрыклад, якія цэлым аўтобусам прыедуць пагледзець знакаміты Крэўскі замак. Няўжо рабочым будзе больш прыемна, калі яны сходзяць на працоўны аб'ект, дзе тыя рабочыя працуюць?

Пасля Крэва паехалі мы ў Гальшаны. Душа цешыцца як бачыш аднoўленую вежу. Стаіць белая, прыгожая як лялечка. З самага дзяцінства марыў убачыць яе такой. І вось мара збылася. І сябру майму спадабалася.

— І чаго некаторыя выступаюць, што тут нешта ўсё не так, — абураецца ён. — Вось ёсць жа людзі, якім ніколі не дагодзіш! Няўжо было лепш, як усё тут сыпалася і знікала. А так адбудуюць, і пасля падтрымліваць у належным стане будуць.

Ды і я асаблівых хібаў сваім недасведчаным у рэстаўрацыі вокам не ўбачыў. Толькі вось замок на прыбіральні не заўважыць было немажліва. Вялікі такі, прыгожы. Эх гэтыя замкі! Як іх у нас любяць. Раней у вёсках замкоў нават у хатах не вешалі. А вось зараз вісяць. Ды дзе?! Сорамна сказаць нават.

Вось едзем у Гародню і пра замкі размаўляем. Наўрад ці тыя замкі могуць учыніць каму псіхалагічную траўму як капанне бульбы да восені. Але сам бачыў, як адзін турыст сваё малое дзіця цягаў па калючых кустах, шукаючы ля замка месца, дзе няма замка. Прыемнага мала.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Дэманы і дэманчыкі

На маю думку гісторыя з'яўляецца звычайнай п'янчужкай, таму што замест проста, усё варушыцца па коле. Палякам ад гэтага не закрунецца ў галовах?! Зноў жа змагаемся з дэманамі Другой Рэчы Паспалітай — нацыяналізму, нахабна ідучага да фашызму, цёмнага клерыкалізму, яўнага антысемітызму і бачнай варожасцю адносін да нацыянальных меншасцей. Яшчэ крыху і дэманы з'яўляцца ва ўсёй сваёй паўнаце, клацаючы зубамі і збіваючы дзіка шыпастымі хвастамі. Дастанецца балюча ўсім, а не толькі ўкраінцам, беларусам, габрэям, але і палякам. Вінаватым і невінаватым у справе і словах. Вінаватых не абароніць патранаж дэманаў — яны не маюць ніякай лаяльнасці для часовых саюзаў. Ва ўсякім выпадку судзіць аб іх будзе чалавечая памяць. На суд Гісторыі няма чаго разлічваць, таму што яна рэдка захоўвае цвярозасць, найчасцей у ідэалагічным ап'яненні. Як і ў выпадку «Бурага», заслужанага жаўнера ў барацьбе супраць нацызму і сумна вядомага пасляваеннага бандыта. Быўшы пад бадуном, палічыла яго ў апошні час за бясспрэчнага героя. Так што застаецца спадзявацца на сумленнасць калектыўнай памяці. Яна заўсёды цвярозая. Калі гаворка аб сумленні «нявінных», яно можа быць забруджана грамадзянскім недаглядам, калі можна было эфектыўна пратэставаць, не згаджацца, дэманстраваць грамадскую адвагу. Але каб мець смеласць, абавязковая адна ўмова — крытычная самасвядомасць.

Чалавечы розум не прымае стану разрыву, фрагментарнасці ведаў разуметых як сума адлюстраванай у ім рэчаіснасці. Для розуму гэтыя веды павінны быць поўнымі, бесперапыннымі. Адсутныя звёны ведаў, нават цэлыя ўчасткі асацыятыўна-фактычнага ланцуга, розум адразу рэканструюе верападобнымі тварэннямі: эмацыйнымі намовамі, перакананнямі, ідэямі, марамі, думкамі прызнаных аўтарытэтаў або поглядамі ўфармаванымі культурнымі і асыроддзевымі паведамленнямі. У гэтым выпадку, аднак, карціна рэальнасці падлягае вялікім дэфармацыям і дэкампазіцыям, што падатлівы розум, які дзейнічае крыху па-за свядомасцю, здаецца, недаацэньвае, прымаючы поўнае задавальненне ад стану рэканструяванай бесперапыннасці. Але ці яна сапраўдная, ці хлуслівая? У якой ступені гэта складаны адказ, можам выкарыстоўваць на прыкладзе шматлікіх тэорый змовы: а вось габрэі кіруюць светам, а вось украінцы хочуць выразаць палякаў, а беларусы з'яўляюцца V калонай Пуціна... Абвяшчаюць іх з аднолькавым запалам адукаваныя і невукі. А тыя першыя часта кажуць больш глупстваў, чым яны думаюць, можа быць, з-за веры, што іх веды вызначае вучонае званне, а не розум. Лепш нам кіравацца ўласнай мудрасцю!

Чалавечы розум ніколі не адпачывае. Калі яму нудотна, выклікае ва ўяве вобразы мінулага. Часам стварае футурыстычныя ўявы. Гэтыя вобразы ў маёй галаве ўсё больш змрочныя. Вось таму я не магу маўчаць. Я рашыўся, яшчэ не без боязі, на грамадзянскую мужнасць. Дзяржаву, якую спрабуе стварыць цяперашні ўрад, Дзяржаву адной партыі, ужо мы праходзілі ў мінулым. У мінулым такім сумным, што аж невыносным. Нельга гэтае пераможваць. У маўчанні «нявінных» здзяйсняецца сапраўдная оргія дэманаў. Гэта ў ім нараджаюцца іх самыя жахлівыя мутацыі. Не ў вулічным верашчанні моладафашыстаў — у рэшце рэшт яны спеюць. Не ў воклічах «ультрасаў». Многія з іх у канчатковым рахунку надзяваюць двухбортны касцюм, каб увайсці ў палітычныя салоны. І нават не ў гугнявым бомканні палітыкаў. З часам нават самы радыкальны палітык пачынае прыцішацца, каб неяк дапнуцца да сытай пенсіі. Сацыяльная трывога не дасць яму пажыцця прыбыткаў. Палітычны разлік у гэтым выпадку вельмі просты: зарабіць як мага больш для сябе ў часы смуты, ідэалагічных звад — па старым правіле, што ў каламутнай вадзе найлепш вудзецца ненажэрным шчупакам, а затым утаймаваць хаос у дзяржаўным ладзе абмежавальным законам, каб бестурботна і ў спакоі пераварваць сваю здабычу. Але спачатку трэба зварухнуць мул на дне кожнай нацыі. Найхутчэйшыя да гэтага дэманы. Таму ў іх безупынныя гешэфты з палітыкамі, найчасцей ідэйнымі галадранцамі, якія купляюць дэманічныя паслугі ў крэдыт, аддаючы пад заклад само грамадства. У канчатковым рахунку, цяжар віны, як даўгі блага кіраванай дзяржавы, раўнамерна размяркоўваюцца на кожнага грамадзяніна. Даўгі мусяць сплачваць усе разам.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбарчы марафон

Тры, два, адзін — старт. Палітычны марафон стартуе кастрычніцкімі самаўрадавымі выбарамі. Затым перад намі еўрапарламенцкія і соймавыя выбары. А потым як і не бач — прэзідэнцкія. Карацей кажучы, відовішчаў і цудовішчаў перад намі хоць адбаўляй. Хто з гэтага змагання выйдзе пераможцам, той рэальна атрымае не толькі палітычную славу, але ўсе фінансавыя і адміністрацыйныя рэсурсы, каб наводзіць парадкі паводле сваіх партыйных праграм. Таму ўжо самаўрадавы бой прынёс сваёй выбарчай кампаніяй жорсткую сутычку кіруючай улады і апазіцыі. Проста не магу слухаць з боку мясцовых палітыкаў, што самаўрадаўцы гэта аніякія палітыкі, толькі сапраўдныя прадстаўнікі народа. Большасць з іх хаваецца за нейкімі назвамі лакальных камітэтаў, каб такім чынам абдурваць выбаршчыкаў. Прытым самі з'яўляліся або з'яўляюцца дзейснымі дзеячамі існуючых палітычных сіл.

У выпадку Падляшша, але і ўсёй Польшчы, у час першых самаўрадавых выбараў у 1990 годзе з-за адсутнасці рэальнай люстрацыі відавочны быў старт працаўнікоў былой камуністычнай службы бяспекі. Спецыялісты па правакацыях і пераследзе іншадумцаў з дня на дзень атрымалі дэмакратычны мандат. На доўгія гады часта яны перанялі ўладу ў сваіх гмінах ці паветах. І кожны з іх атрымаў памятныя адзнакі заслужаных для самакіравання ў Польшчы. От, такая насмешка над гісторыяй і людзьмі. Вельмі відавочным у мясцовых выбарах з'яўляецца змена кандыдатамі на радных саміх камітэтаў і іх назваў. Лакальная палітыка не менш крывавая ад агульнапольскай. Улічваючы ўсе мясцовыя сямейныя, рэлігійныя, эканамічныя тонкасці, напэўна карупцыйнасць і помслівасць ідуць з сабою як роўны з роўным. Мой бацька пры нагодзе кожных выбараў любіць паўтараць такую пагаворку: «Глянь, усе яны маюць прыгожыя белыя зубы. І паказваюць іх нам, калі шырока ўсміхаюцца. Але, што ў кожнага хаваецца ў роце за зубамі і да чаго яны здольны гэтымі зубамі і языком зрабіць з другімі людзьмі, хай толькі крые Бог».

Выбары будуць праходзіць паводле новага закону, паводле якога абіраць будзем нашых прадстаўнікоў на пяцігадовы тэрмін. Пачынаючы з гэтых выбараў войтам ці бургамістрам можна будзе быць толькі два тэрміны. Значыць — дзесяць гадоў. Але тыя войты і бургамістры, якія кіруюць у нас ужо нават звыш трох тэрмінаў, могуць надалей балатавацца і зараз. Многім самаўрадавым кіраўнікам такая развязка дае рэальны шанц быць на сваёй пасадзе аж да пенсіі. Як паказвае практыка, вельмі цяжка перамагчы дзейснага ўладара гміны ці горада, бо рычагі і адміністрацыйныя рэсурсы ўвесь час працуюць на яго пазіцыю. Зараз, калі ў Польшчы маем з боку самаўрадаў вялікі доступ да еўрасаюзных сродкаў, толькі самы лянівы і гультаяваты народны абраннік не скарыстоўвае той колькасці прапаноў, якія з'явіліся перад органамі мясцовага самакіравання. Калі ўлічыць яшчэ зараз і ўрадавыя праграмы ажыўлення Усходняй сцяны, то кемлівы і кручаны войт ці бургамістр сапраўды можа пахваліцца перад выбаршчыкамі інвестыцыйнымі ці грамадска-культурна-кулінарнымі праектамі. Часам складаецца ўражанне, што ў Падляшскім ваяводстве гэтыя сродкі проста перапядаюцца ў бязлікіх праектах пад умоўнай назвай «Наша кулінарная спадчына». Ад гэтай кулінарыі мясцовыя бонзы цягам гадоў могуць бясплатна пасілкавацца любімымі стравамі і нажыць сабе стройныя жывоцікі. Ну, але зараз іншы ўзор мужчынскага выгляду. Трэба быць абавязкова худзенькім як юнак у сярэдняй школе і ўбіцца ў першы касцюм свайго сына. Таму зараз, сама меней год перад выбарамі, наглядаю, што амаль усе цяперашнія і будучыя абраннікі і абранніцы пачынаюць ізноў дружыць з рознымі дыетамі, спартыўнымі занятkамі і здаровым ладам жыцця. Крыху поту, заўзятасці і выбарчы мадэль у поўнай красе кінецца ў выбарчае змаганне.

Для нас менавіта, грамадзян, выбарчы дзень — гэта час, калі з дапамогай звычайнага, простага крыжыка можам ад нашага імя даць права на кіраванне лёсам нашых малых айчын тым, каму давяраем, або тым, хто пераканаў нас да сваіх поглядаў і праграм. Таму выбіраць гэта таксама нялёгкая справа.

**Яўген ВАПА**

# ДРАЎЛЯНЫЯ БУДЫНКІ — НАША СПАДЧЫНА

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



**У Музеі сельскай гаспадаркі імя кс. Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы падчас урачыстага падвядзення вынікаў конкурсу на найлепш захаваны будынак вясковага драўлянага дойлідства (7.10.2018 г.), арганізаваным падляшскім ваяводскім самаўрадам ужо ў XIV раз былі агучаны пераможцы. Сёлетняе выданне конкурсу прыпала на 100-годдзе адраджэння незалежнасці Польшчы і Еўрапейскі год культурнай спадчыны. 6000 злотых чакала пераможцу гэтага штогадовага конкурсу на найлепш захаваны помнік драўлянай спадчыны Падляшскага ваяводства. Заяўкі можна было падаваць да 18 траўня. У конкурсе прымаюць удзел уласнікі драўляных хат і гаспадарчых будынкаў, пабудаваных да 1956 года, а шэсць будынкаў пабудавалі ў перыяд ад 1946 да 1956 года. Важна, каб будынак быў у добрым тэхнічным стане. Як казаў дырэктар дэпартамента культуры МУ ПВ Анатоль Вап, «такі дом не можа быць руінай, якая валіцца. Захоўваць трэба таксама і аздобы дома, а перш за ўсё ўнутранае расплანаванне хаты. Калі трэба змяніць, то так змяніць, каб не папсаваць эстэтыкі і функцыянальнасці будынка». Ключавую ролю ў ахове драўлянага будаўніцтва адыгрывае пытанне змены ментальнасці ўласнікаў гэтых аб'ектаў. Захаванне гэтай архітэктуры служыць утрыманню культурнай тоеснасці Падляшша. Неабходнае таксама ўсведамленне мясцовых самаўрадаў — толькі актыўны ўдзел у захоўванні будынкаў-помнікаў можа прынесці поспех у гэтым дзеянні.**

— Спадчына — гэта штосьці, што спалучае нас і дазваляе зразумець месцы, у якіх мы жывем, — адзначыў маршалак Падляшскага ваводства Ежы Ляшчынскі. — Гэта спадчына, якая ўзмацняе нашу тоеснасць, узбагачае і і дазваляе далі жылыя дамы (21 аб'ект), чатыры стадолы, свіраны і гаспадарчыя будынкі. Іншыя аб'екты гэта вятрак, касцёл і будынак былой школы, якая цяпер з'яўляецца мастацкай галерэяй. Заяўленыя будынкі змяшчаюцца ў васьмі паветах, у абсягу пятнаццаці гмін. Найбольш — 10 помнікаў — было заяўленых з Гайнаўскага павета. Па чатыры помнікі заяўлены былі з Высокамазавецкага і Сямятыцкага паветаў, па тры з Беластоцкага і Сейненскага, а па адным з Граеўскага, Сакольскага і Бельскага. Аж 16 будынкаў было пабудаваных ад 1918 да 1945 года. У XIX ст. шалёўка, мяняецца дахавае пакрыццё і вокны ды дзверы. Унутры не захоўваюцца старыя печы, мэбля і элементы старога інтэр'еру. Незалежна ад вялікага фінансавага ўкладу ўласнікаў, журы не дае ім добрай ацэнкі па прычыне незахавання асноўнага прынцыпу конкурсу: ахова традыцыйнага драўлянага дойлідства. Гэтыя аб'екты страчваюць свае помнікавыя каштоўнасці і не могуць быць узорам для адаптацыі помнікавых будынкаў да сучасных жылых стандартаў. Такія «рамонты» рашуча паніжаюць эстэтычныя і помнікавыя каштоўнасці Часта новыя пакупнікі з іншай тэрыторыі краіны, якія ўпадабалі Падляшша, з вялікім піетэтам і дбайнасцю адносяцца да традыцыі і характару тутэйшага дойлідства і культуры, як Андрэа і Мацей Фалькоўскія (глядзіце 9 старонка).

Першую ўзнагароду атрымала Надзея Андраюк з вёскі Сацы, што ў Нарваўскай гміне (хату перапісала на дачку Марыю Філіпюк). Прыехала яна ў Цеханowец з сям'ёй, а ўзнагароду і таблічку з інфармацыяй, што хата ў Сацах, пад нумарам 34 — нацыянальны помнік, пры-



Узнагароджаны дом бабулі Надзеі Андраюк



Першую ўзнагароду атрымала Надзея Андраюк з вёскі Сацы, Нарваўскай гміны

адчуваць гонар з творчасці нашых продкаў. Прыгожая драўляная вясковая архітэктура гэта наша спадчына і вялікі абавязак. Дбаючы аб яе не толькі аказваем павагу для таленту і працы даўніх майстроў, але перш за ўсё захоўваем іх красу для наступных пакаленняў. Багатае аздабленне падляшскіх хат, элементы іх інтэр'еру штораз больш выкарыстоўваюцца маладымі праектантамі і творцамі прыкладнога мастацтва. Асаблівая атмасфера гэтых месцаў прыцягвае шмат каго, інспіруе і натхняе.

За 14 гадоў правядзення конкурсу пададзены былі амаль 800 конкурсных заяў. У чарговым выданні конкурсу прыняло ўдзел агулам трыццаць шэсць будынкаў, якія заявілі 28 уласнікаў. Сярод заяўленых будынкаў найбольшую групу склапабудавалі 8 аб'ектаў заяўленых да конкурсу, а найстарэйшы з іх — касцёл у Карыцінах (перанёс, аднавіў і пасвяціў яго Мірaслаў Ангельчык) — з XVIII ст. У 1901-1918 гг. пабудавалі 5 будынкаў. Усе заяўленыя да конкурсу будынкі цяпер з'яўляюцца прыватнай уласнасцю, апрача старой школы, цяпер Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы, і ветрака ў Карыціне, які належыць да Гміннага асяродка культуры, спорту і адпачынку.

Падводзячы вынікі конкурсу, трэба звярнуць увагу на некалькі істотных праблем, якія можна заўважыць падчас яго рэалізацыі. Да конкурсу часта заяўляюцца жылыя будынкі, якія прайшлі капітальны рамонт. На жаль, часта мяняюцца ў іх амаль усе канструкцыйныя элементы, напр. падмуркі, прыбіваецца новая аб'ектаў. Прымяняюцца новыя будаўнічыя матэрыялы пры печах, сталярцы, дахах. Вымяняюцца вокны з драўляных на вокны з ПВХ, з іншымі памерамі і падзелам. Такія змены разбураюць вонкавую і ўнутраную гармонію будынка, а змена даху на бляшаны даводзіць да кепскай вентыляцыі будынка, развою плесні і казурак, якія знішчаюць драўніну. Варта аб гэтым памятаць, прымаючы на сябе апеку над драўляным помнікам спадчыны.

Шмат з заяўленых да конкурсу будынкаў не з'яўляецца месцам пастаяннага жыхарства, карыстаюцца з імі ў адпачынак або ў летнюю пару, часта ў гэтых будынках уласнікі арганізуюць агратурыстычны аб'ект. Гаспадары часта свядома стылізуюць аб'ект, каб нагадваў даўнюю дагледжаную вясковую хату, звонку і ўнутры.

мала з праўнукам з рук маршалка. «Хату будавалі, як царская вайна скончылася, і мой дзед прыехаў з Сібіры. Пяць гадоў там прабыў. Тады, прыехаўшы з татам, будаваліся... Хата трымаецца, і я ў ёй жыву, і ўсё што зрабілі ўнутры, дык маю, усё захавалася, не страцілі мы нічога. І дываны, і макаткі, і падушкі, вышываныя рэчы». Хата бабулі Надзеі вылучаецца дасканала падабранымі прапорцыямі і аздобамі. Дом стаіць шчытом да дарогі. Захаваная арыгінальная шалёўка, у тыповым раскладзе — да ніжняга краю акон вертыкальная, у вышэйшым — гарызантальная. Будынак здобяць філянговыя аканіцы, прафіляваныя разныя дэталі на рагах і шаляваныя шчыты з дошак у кутавым раскладзе.

працяг 10

## Засталіся адно ўспаміны (44)

Наш механік Алік Чарнянін быў вясёлым кампаньёнам. Гармонік прывёз з сабою з Савецкага Саюза, калі ў рамках рэпатрыяцыі ехаў у Польшчу. З матуляй Барбарай і братам Болькам пасяліліся ў Гайнаўцы, дзе на вуліцы Пралетарыяцкай збудавалі домік-«блізьняк». І хоць ніводнае з іх не валодала польскай мовай, адно блытанінай руска-польскіх слоў, Алік заўжды паўтараў: «Я — паляк, Альфонс Чэрнянін». А да паненак ліп ён, шэльма, быццам муха да мёду. Ажаніўся з маладзенькай прыгажуняй з Вышак у сям'і музыкантаў — ігралі цесць ды двух шваграў. З Альфонсам быў бы нядрэнны квартэт, але ўзнікла праблема. Алік свае ўмеласці найлепш дэманстраваў на вальсе «Амурскія волны» або «На сопках Маньчжурыі» ды песні «По диким степям Забайкалья». А ў паненках шэльма не перабіраў. «Чым маладша, тым саладша», — жартаваў. І з гэтага жарту меў я праблему. У Пашкоўшчыне сямікласніца ўтрэскалася ў кіношніка. Парачка так ужо публічна ўвочы кідалася, што кіраўнік школы Станіслаў Заянчкоўскі зрабіў мне заўвагу: «Скажыце механіку, каб свой раман з вучаніцай закончыў, інакш я прыму становучыя меры...», — сказаў. Пазней казалі, што дзяўчына ў маладым узросце выйшла замуж за іншага. Аліку адно ўспаміны засталіся.

Не ведаю як і калі з маёй пазнейшай шлюбнай рабілі дамову, але бурбалка лопнула ў Войшках. Алік сваёй гаворкай так мяне ашарашыў, што я амаль з ног не зваліўся. Калі закончылі мы вячэрнія сеансы, дык калега абвясціў:

— Шаноўны пан кіраўнік, едзем у сваты!

— Ты, што, ачмурэў? — пытаю, блукаючы вачыма.

— Я зусім сур'ёзна, — адазваўся «маршалак».

— Няма чаго дурачка валяць, — падхапіў Валодзя Скепка. — Як усе, дык усе жанаты...

— Скажыце хоць каго мне сватаеце? Я зусім непадрыхтаваны, — адказваю збянтэжаны.

— За гэта не клапаціся. Усё афармлена, — хітра падмаргнуўшы, сказаў Алік і тут жа прыбавіў: — Гарэлку маем і дзяўчына чакае. У Дубяжын паехалі.

З Войшкаў у Дубяжын пэўна кіламетраў больш за дваццаць будзе. Гадзіннік паказваў дзесьці гадзіну дзясятую хвілін трыццаць вечара. Стаяла цёплае месячнае надвор'е. У Бельск мігам дабраліся. Затым праз Кнарыды і Мокрае падаліся ў Дубяжын. Вясковая вуліца прывітала нас сельскай цішынёю. У канцы вёскі, на апусцелай Арсеневай пляцоўцы (ўласнік выехаў у Расію), прыкмецілі некалькі хлопцаў. Сядзелі на вялікім валуне, дзе заўжды збіраліся на «пагадушкі».

— Ды што, заўтра кіно будзе? — пачуўся голас.

— Кіно не будзе, — адказаў Алік. — У госці прыехалі. І тут жа павярнуў у бок чарнявага сімпатычнага кавалера: — Скажы сястрыцы, што прыехалі.

Гаспадары быццам чакалі гасцей. Запрасілі прысесці. Алік пазнаёміў з Гануляй і бацькамі. Мігам падрыхтавалі пачастунак, гарэлку і смачныя вясковай вытворчасці вяндліны. Не паспелі выпіць па кілішку, як у пакой зайшоў добра вядомы мне Коля Уладзеў, муж вясковай прадаўшчыцы.

— Выйдзем, Уладэк, пляшку маем, — звяртаючыся ў мой бок сказаў прышэлец.

— Ды як табе не сорамна, Коля, забіраць госця з хаты, — усхваляваным голасам загаласіла гаспадыня. — У нас свая кампанія, свая гарэлка і ўсё, што патрэбнае. Ты няпрошаны госць. Ідзі з чым прыйшоў...

І тут жа паказала нахабніку выхадныя дзверы. А калі гэты выйшаў, мы прыселі за багата застаўлены стол і пачалі размовы па канкрэтнай справе. Пра вяселле.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# Такая праўда

## Інтэрв'ю са спадаром Пятром СЭЛЬВЕСЮКОМ, войтам Арлянскай гміны.



**— Які быў стан Арлянскай гміны дванаццаць гадоў таму, калі Вы прыйшлі на пасаду войта? Які быў тады бюджэт і што ўдалося зрабіць?**

— Бюджэт у 2006 годзе быў крыху больш за 6 мільёнаў злотаў, а зараз значна больш за дваццаць мільёнаў. Сітуацыя ў гміне была нецікавая, хопіць аглянуцца, бо гэта неадлеглы час, які ўсе памятаюць. Былі вёскі, да якіх не было асфальтавага даезду, а дарогі да іх былі слабыя; але добра, што і такія былі. А вясковыя святліцы былі ў незайздросным стане, а ў некаторых мясцовасцях тых святліц і зусім не было, як, напрыклад, у Вульцы-Выганоўскай. І перыяд тых дванаццаці гадоў паказаў, што ў гміне можа быць нармальна, што гміна можа развівацца, што гміна можа дапамагаць, таксама ў фінансавым плане, жыхарам. Цягам дванаццаці гадоў удалося, перш за ўсё, вырамантаваць і, у некаторых выпадках, пабудаваць ад асноў звыш пятнаццаці кіламетраў дарог, пабудавалі восем кіламетраў каналізацыйнай сеткі, дзве новыя ачышчальні сцёкаў, адрамантавалі або пабудавалі новыя святліцы ва ўсіх мясцовасцях. Таксама ў Орлі пабудавалі новы цэнтр культуры, гульнявыя пляцоўкі з трэнажорнымі міні-ўстаноўкамі ў розных мясцовасцях, а таксама — гэта важнае дзякуючы добраму кіраванню — плацім стыпендыі найлепшым вучням ды даплачваем нашым сеніёрам да лякарстваў. Мала хто ведае, што з моманту запуску гэтай праграмы цягам некалькіх гадоў наша гміна даплаціла нашым жыхарам больш чым 250 тысяч злотаў. Таксама падаткі, якія плацяць пенсіянеры, сяляне — яны найніжэйшыя ў павеце. Таксама найніжэйшая аплата за адкіды — тут таксама гміна даплачвае, як за ваду і сцёкі. Значыць, апрача выдаткаў на інвестыцыі, інфраструктуру, стараемся збаўляць аплаты ад насельніцтва.

**— Адкуль узяўся такі вялікі гмінны бюджэт і чыя гэта заслуга?**

— Гэта перш за ўсё дзве вонкавыя інвестыцыі: фабрыка IKEA, якая плаціць у гмінны бюджэт амаль чатыры мільёны злотаў штогадова. Гэта галоўным чынам мая і віцэ-старасты заслуга, калі мы ездзілі, сустракаліся і абмяркоўвалі, а пасля тэхнічныя справы былі даручаны працаўнікам для рэалізацыі. Войт павінен прадстаўляць гміну навонкі адносна планаў, а звычайныя працаўнікі павінны тыя планы, калі яны рэальныя, рэалізаваць. Гэтаксама было з ветравой фермай — многа сустрэч. Уладальнік ветравой фермы плаціць нам больш за паўтара мільёна злотаў падатку. Значыць гэтыя дзве вонкавыя інвестыцыі даюць нашмат больш за пяць з паловай мільёна злотаў даходу ў гмінны бюджэт і менавіта гэтыя грошы дазваляюць на рэалізацыю нашых інвестыцый.

Падаткі — бо некаторыя кажуць, што плацяць аграрны падатак — гэта ўсяго няцэлы мільён злотаў у год. І цяпер гэта можна параўнаць хаця б з інвестыцыяй у павятовую дарогу ў Пашкоўшчыне, якую здамо ў карыстанне ў кастрычніку — больш за 1100 тысяч злотаў. 1600 тысяч на дарогу ў Крывятычах, святліцы і ачышчальні сцёкаў гэта амаль тры мільёны. Калі б не гэтыя вонкавыя інвестыцыі, то ў Арлянскай гміне, шчыра кажучы, не было б за што жыць і не было б з чаго рэалізаваць свае інвестыцыі. Такая праўда і праўды ніхто не памяняе, праўды нельга залгаць. Тое што зроблена відаць навонкі, гэта зроблена наяўна.

**— Калісь Арлянская гміна была ў ліку насмешных аўтсайдэраў, а зараз у ліку найбагацейшых.**

— Ёсць працаўнікі, якія калісь у гміне працавалі і працуюць зараз, якія ўзурпіруюць сабе права да нейкіх заслуг, якіх зусім няма. Калі я сюды прыйшоў, стан інфраструктуры быў жахлівы. Гміна па долі даходу на адну асобу займала ў рэйтынгу 1396-е месца з ліку 1571 самаўрада, а зараз знаходзіцца на трыццатым ці сараках месцы ў краіне. Гэта толькі дзякуючы вонкавым інвестыцыям, дзякуючы правячым асобам, якія прымалі рашэнні, а не звычайным працаўнікам, як гэта некаторым здаецца.

**— Спадар войт ужо адзначыўся ў гісторыі вельмі добра і выключна таксама тым, што адзіным на Падляшшы задбаў і дбае пра нацыянальную тоеснасць мясцовых жыхароў, уводзячы дапаможную беларускую мову ва ўстановах ды двухмоўныя ўказальнікі. І трэба падкрэсліць, што гэта не перашкодзіла Арлянскай гміне развівацца і стаць у лік перадавых у краіне. Як пасля гадоў Вы сузіраеце гэта?**

— Кожнае дзеянне важнае. Я задаволены і ганаруся тым, што Гмінная рада на маю прапанову прыняла такія пастановы. Мы тут пражываем ад стагоддзяў, мы не маем чаго саромецца. Праўда зараз такая, што ў цяперашняй палітычнай сітуацыі, дзе меншасці не надта шанаваныя, не маюць сваёй уласнай пазіцыі, калі мы самі не будзем упамінацца пра свае правы, то складана, каб нехта дбаў пра нашы правы; і вельмі добра што ёсць гэтыя таблічкі і дапаможная мова. Калі мы пачнем саромецца самі сябе, то нечага функцыянаваць у публічнай прасторы, бо тады ніхто не будзе нас паважаць.

**— Новы будынак цэнтра культуры створыць яшчэ лепшыя ўмовы для дбання пра сваю культуру, традыцыю, гісторыю, а такіх умоў дасюль не было. Гэта таксама Ваша заслуга.**

— Умовы дагэтуль былі такія, якія былі. Затое ў сферы культуры спадарыня дырэктар рабіла вельмі многа ў існуючых бытавых умовах. Я ўжо шматразова гаварыў, што мы не хочам і не можам абмяжоўвацца сваёй дзейнасцю толькі да нашай гміны, бо гэта цэнтр беларускай культуры і мы хочам, каб ён гуртаваў класныя дзеянні, якія датычаць беларускай меншасці, ці праваслаўнай, ці іншых. Цэнтр павінен праменяваць сваёй дзейнасцю на суседнія паветы, а таксама на ваяводства, значыць на тыя абшары, дзе дзейнічае беларуская меншасць. Калі ладзяцца фестывалі ці гала-канцэрты беларускай песні, не абазначае гэта, што яны павінны адбывацца ў Бельску ці Гайнаўцы; частка іх з не меншым поспехам можа адбывацца і ў Орлі. Маем дзеля гэтага тэхнічную базу ў постаці будынка і яго аснашчэння, маем таксама добрыя кадры. Таму нашы дзеянні можам выводзіць шырэй, навонкі павета, на ваяводства. Ідэй многа і ад напаўнення іх зместам ёсць спадарыня дырэктар.

**— Набліжаюцца самаўрадавыя выбары. З чым спадар войт ідзе да іх?**

— За намі, перш за ўсё, стаяць спрактыкаванасць і здзяйсненні. І людзі, солтысы, радныя, якія са мною супрацоўнічалі і я супрацоўнічаў з імі; самому нічога не ўдасца зрабіць. Сапраўды, ёсць контркандыдаты, кожны мае права балатавацца. Але ненармальная сітуацыя, калі авансаваны мною працаўнік, які ў ходзе маёй дзейнасці кончыў штудыі, бо меў толькі сярэднюю адукацыю, прыпісвае сабе ўсе заслугі адносна праведзеных у гміне дзеянняў і ўзурпіруе сабе права да захопу тых дзеянняў і рашэнняў. Гэта непрыстойныя паводзіны, аднак няхай гэта ацэняць выбаршчыкі. Гэты чыноўнік працуе дваццаць гадоў і быў час, калі гміна была ў нецікавым стане, дзе часта з гэтай гміны падсмейваліся — трэба было тады дзейнічаць і прымаць рашэнні, балатавацца ў выбарах, а не цяпер ісці на гатовае. Кожны мае права балатавацца і няхай жыхары выбіраюць паводле розуму і сумлення ды паводле дасюлешніх дасягненняў. У маёй праграме далейшая разбудова дарожнай сеткі, будова вадаёма з адпачынкавымі тэрыторыямі паблізу Орлі, узбуйненне даплаты да лекаў, зніжэнне падатку ад будынкаў да нуля злотаў, новыя інвестыцыі: пабудова швальні ў Орлі і чарговыя ветракі каля Крывятыч.

**— На канец спытаю, ці спадар войт чытае «Ніву». Ведаю, што школа падпісваецца толькі на адзін асобнік «Нівы» ў бібліятэку і ці войт мае на гэта ўплыў?**

— Шчыра скажу, што войт ад таго, каб мець уяўленне, планы, прадстаўляць гміну навонкі, затое ад такіх штодзённых рашэнняў ёсць працаўнікі, ёсць дырэктар школы. Гэта не той узровень, якім павінен займацца войт. На гэтую тэму трэба размаўляць са спадарыняй дырэктар школы. Цяпер усё ідзе ў напрамку электроннай рэчаіснасці, інтэрнэту. Мяркую, што людзі павінны купляць больш, але гэта іх індывідуальная справа.

**— Дзякую за размову.**

Размаўляў Міхал МІНЦЭВІЧ

(размова неаўтарызаваная)



# Новая святліца

27 верасня ў Спічках, што ў Арлянскай гміне, была здадзена ў карыстанне новая вясковая святліца. Урачыстасць удастоілі важныя асобы мясцовага рангу: войт Пётр Сэльвесюк, бельскі староста Славамір Снарскі, настаяцель бельскага Міхайлаўскага прыхода а. Лявонцій Тафілюк ды іншыя.

Пётр Сэльвесюк, на мясцовай гаворцы: «Дзякую за прыбыццё, бо не было б сённяшняга спаткання без вашай прысутнасці. Не так даўно мы сустракаліся ў школьным будынку, які яшчэ стаіць, але настаў час, каб і ў Спічках пабудаваць святліцу. Гэтая святліца ўдвая мне асаблівая. Па-першае: яна завяршае этап будовы ці перабудовы святліц ва ўсіх мясцовасцях гміны. Калі я стаў войтам, то тыя святліцы знаходзіліся ў розным стане, а цяпер яны або пабудаваныя ад асноў, як тут, або вырамантаваны. Па-другое: гэта адна з найпрыгажэйшых святліц у гміне; пра гэта можна пераканацца заглянуўшы ўсярэдзіну. Хачу тут падзякаваць спадарыні раднай Анне Лажэцкай, якая ўвесь час хадайнічала за будову тут святліцы. Бо толькі такія радныя, якія ўмеюць знайсці супольны язык з цэлай Гміннай радай, якія ўмеюць знайсці супольны язык з войтам, тыя радныя патрапяць нешта збудаваць. Не тыя, якія сварацца, не тыя, якія ўзнімаюць авантуры. Таксама дзякую прысутнаму тут былому солтысу Паўлу Себясевічу, які заўсёды пытаўся, незалежна ад таго, ці быў солтысам, ці пасля не быў: «Пане войце, калі ў Спічках пабудуем святліцу?». Але са спадаром солтысам Паўлам найперш будавалі дарогі, але прыйшоў час будаваць святліцу з іншым солтысам, панам Юркам Казіміруком, якога сёння няма, бо хворы; ён таксама хадайнічаў за пабудову гэтай святліцы. Яшчэ раз дзякую ўсім за прысутнасць, асабліва вам, жыхарам. Хачу пажадаць, каб гэтая святліца служыла вам як найдаўжэй, каб спатыкаліся ў ёй пры розных урачыстых нагодах, бо дзе няма святліцы, там людзі перастаюць спатыкацца. А Спічкі належаць да тых мясцовасцей, дзе яшчэ асталася прыстойная колькасць жыхароў».

Староста Славамір Снарскі, на польскай мове: «Ваш самаўрад гэта ўстанова, якая служыць людзям у задавальненні асноўных патрэб. Хачу падкрэсліць, што маеце сапраўды вельмі добрага гаспадара Пятра Сэльвесюка. Ведаю яго шмат гадоў; дзякуючы яго актыўнасці супольна збудавалі мы шмат дарог у гміне, маглі павышаць якасць паслуг у нашым павятовым шпіталі, гміна дакладалася да розных інвестыцый. Гаспадар мусіць дбаць пра кожную мясцовасць, пра кожны закутак. І важнае, каб вы, па-першае, не зачыняліся ў дамах, толькі каб спатыкаліся, каб гутарылі з сабою пра добрыя справы, бо кожнаму з нас здараюцца розныя справы, часам непрыемныя, але размаўляйце пра дабро, шануйцеся. Цешуся, што дбаеце пра сваю культуру, пра тыя песні, якія павінны гучаць доўга, бо маладое пакаленне неаднакратна кудысь выязджае, часам па розных прычынах сароміецца сваіх каранёў. Вы мусіце пра гэта дбаць, бо гэта ваша зямля, ваша месца. І мусіце пра гэта спяваць, пра гэта гаварыць, мусіце спатыкацца. Віншую гэтай святліцы. Віншую спадара войта і радных, што прымаюць ініцыятывы, прымаюць добрыя рашэнні. Прызнаннем добраму гаспадару, войту, з'яўляецца падзяка ў выбарах і заахвочваю вас даціняць свайго гаспадара, бо ён сапраўды з'яўляецца добрым, амбітным, маладым яшчэ, які хоча вам служыць».

Віцэ-староста Пётр Божка, на польскай мове: «Нячаста благачынны прыязджае ў вёску, нячаста прыязджае староста, а спатыкаемся там, дзе людзі хочуць спатыкацца. Прыязджаем у Спічкі, дзе столькі малых дзяцей, а не ўва ўсіх вёсках у нашым павеце відаць столькі малых дзяцей; гэта ўся радасць. Ёсць шмат такіх вёсак, дзе цягам пяці-дзесяці гадоў родзіцца двое-трое дзяцей. Тут яшчэ шмат дзяцей; відаць, што вёска жыве, таму ў гэтай вёсцы варта інвеставаць».



■ Малебен з а. Лявонціем Тафілюком



Настаяцель Міхайлаўскага прыхода а. Лявонцій Тафілюк, на царкоўнай мове: «Нам усім не хапае зносін, не хапае супольнай бяседы. Калісь было інакш: не было святліц, але ў кожным доме было многа людзей, была вуліца, былі хаты, якія прымалі гасцей. Прыходзілі на вячоркі, сядзелі на лавачках, моладзь і старэйшыя спявалі песні, бяседавалі. Жыццё кіпела. Сёння ўсе астаюцца дома. Цывілізацыя гэта вельмі харошая справа, але трэба ўмець ёю карыстацца. Інтэрнэт сёння дае многа пазнання, але дае і многа зла. Асабліва маладое пакаленне, праседжваючы ў інтэрнэце, не заўсёды шукае таго, што карыснае, а таго, што ім падабаецца; а падабаецца больш усяго тое, што нядобрае. Жадаю, каб у гэтым памяшканні заўсёды былі людзі. Калісь мы маліліся ў старой святліцы — былой школе, прыязджалі на акафісты, калі было больш людзей. Цяпер у Спічках іх і зусім мала. А дзеці — я не помню, каб цягам апошніх двух гадоў, якое адсюль хрысцілі, не родзяцца. Але мы ўсе маладыя, бо цела з часам становіцца слабым, але дух астаецца маладым. Наша тут прысутнасць сведчыць пра тое, што гэтае памяшканне вам патрэбнае. Яго будавалі ўсе. Ваша малітва, ваша жаданне, каб яно тут паўстала, памагае. Жадаю, каб вы ўсе заўсёды радаваліся, любілі друг друга, гаварылі, як адзначыў староста, пра дабро, нікога не асуджалі, не трэба асуджаць улад, а глядзець у сябе, што ў мяне ўсярэдзіне. Бо ці я найлепшы? Няпраўда, можа я найгоршы».

Радная ад Спічкоў Анна Лажэцкая, на польскай мове: «Цешуся, што нас тут так многа, Дзякую ўсім, што прычыніліся да гэтага, што ў нашай вёсцы паўстала такая прыгожая святліца. Спадзяюся, што будзе нам служыць доўгія гады ў розных нагодах. Дзякую ў першую чаргу спадару войту, за тое што яна была пабудавана».

Стужку ўрачыста перарэзвалі а. Лявонцій Тафілюк, Анна Лажэцкая, Славамір Снарскі, мясцовыя дзеткі, Пётр Божка і Пётр Сэльвесюк. У новай святліцы адбыўся ўрачысты малебен, пасля якога бельскі благачынны і настаяцель Міхайлаўскага прыхода а. Лявонцій Тафілюк пасвяціў новую святліцу. А затым настаў час жаданай прамоўцамі бяседы. Прысутных, у большасці пажылых жыхароў вёскі, весяліў калектыў „Арляне".

Не ўсе падаліся за сталы. Вось зачапіў я адыходзячыя тры пажылыя жанчыны з пытаннем пра іхнюю адсутнасць за бяседай. Было традыцыйнае ў такіх абставінах апраўданне ўзростам, здароўем; бо не запісаліся. А былі яны пайшлі пaглядзець івент, спадзяваючыся пачуць „выстэмпы". Але ж святліца і задумана дзеля таго, каб весяліцца менавіта ў час бяседы. А бяседа ў нас адбываецца з пачастункам... Бабулькам пачастунак быў лішнім, бо гарадскія дзеці і ўнукі назвозілі ім у халадзільнікі ўсялякага дабра. То яны выбралі тое хатняе дабро...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## ГЭТА ЎЖО ГІСТОРЫЯ (2)

У шасцідзясятыя гады ў Кузаве бурліла грамадская праца і квітнела культрна-асветная дзейнасць. Яе ініцыятарам была моладзь. У святліцы апрача клуба «Рух» і маладзёжных арганізацый — Саюза вясковай моладзі і Лігі сяброў сапдат працавалі Гурток вясковых гаспадынь і бібліятэчны пункт. Кніжкі для абмену пастаўляла Грамадская публічная біліятэка ў Чаромсе. Шмат кніжак для супольнага карыстання падарылі пункту аднавяскоўцы. А Гурток вясковых гаспадынь арганізавала ў ліпені 1961 года Аляксандра Назарук, старшыня такога ж гуртка з суседняй Вулькі-Тэрахоўскай. Адразу запісалася дваццаць адна жанчына. Старшынёю абралі Галену Сідарук. Перш-наперш жанчыны арганізавалі садок для дзетак, якіх бацькі працавалі, каб малечы не заставаліся без дагляду. У канцы 1961 года пры дапамозе павятовых улад былі арганізаваны курсы варэння і пячэння. Памятаю, што заняткі праводзіліся ў хаце старэнькай бабулі Юсціны Парфянюк непадалёк святліцы і царквы. Навучанне праводзіла інструктарка Леакадзія Залеўская з Сямятыч. Удзельнічалі ўсе члены гуртка. Курсы доўжыліся, калі добра памятаю, два тыдні. Інструктарка навучыла жанчын варыць стравы, пячы здобнае пірожнае, таксама вырабляць мясныя вэнджаныя грудзінкі. Патрэбныя прадукты жанчыны прыносілі з дому (раней вызначалася хто і што мае прынесці). А на заканчэнне курсаў за сабраную складчыну купілі вепрука і паводле здабытых ведаў падрыхтавалі шыкарныя вясковыя вырабы. Здобнае пячэнне і тарты таксама былі ўласнай вытворчасці. Кожная ўдзельніца падбірала сабе напарніка, ці то мужа, ці кавалера. Мужчыны прыносілі па бутэльцы гарэлкі, наймалі музыканта. У Кузаве вядомым гарманістам быў Грыша Рэпка. Яму выпала на долю весяліць удзельнікаў завяршэння кулінарных курсаў у Кузаве. Гэта была сапраўдная сяброўская бяседа. У студзені наступнага года былі арганізаваны курсы па кравецкай справе. Навучанне вяла інструктарка сельскагаспадарчых гурткоў з Гайнаўкі. Заняткі праходзілі ў той жа хатцы бабулі Юсціны. У пазнейшых гадах кузаўская жанчыны славіліся вытворчасцю каляровых ваўняных дываноў (пасякаў). Гэтым рамяством займаліся Вера Кердалевіч, Надзея Саўчук, затым прафесію ткання дываноў на кроснах пераняла самая малодшая ткалля Надзея Данілюк. Старэйшыя ткачыхі ўжо паўміралі. Некалькі год таму Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе рэалізаваў еўрасаюзны праект «Школа знікаючых рамёстваў», дзе свае здабытыя ткацкія веды маладому пакаленню перадавала кузаўская ткачыха Надзея Данілюк.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі




# Гэта быў наш дзень!

— Разам з англійскай, нямецкай, рускай, італьянскай і французскай прагучала і наша родная беларуская мова, — заяўляе настаўніца Альжбета Рудкоўская.

Беларусы цудоўна запрэзентавалі беларускую кухню. Яны прапанавалі дранікі, аладкі, бліны — словам усё тое, што абажае моладзь. Стравы зніклі мігам, на стале не засталося ні крошкі.

Спадабалася таксама песня «Тры чарапахі», якая прагучала ў школе некалькі разоў. Вучні сталі пераможцамі двух найважнейшых конкурсаў.

— Гэта быў наш дзень! — адзначае настаўніца.



*Юля ГРЭСЬ*

Мова пра Міжнародны дзень моў, які праходзіў 29 верасня г.г. у беластоцкай гімназіі № 7.

*Фота А. Рудкоўская*

Юля ГРЭСЬ,
школа ў Залуках

## Надзея

Надзея ў кожнай галаве,
У кожным слове — надзея.
Пакуль яе не пакінем,
Заўсёды разам выйграем.
І нават калі нікога няма,
Калі ў сэрцы толькі смутак,
Пашукай надзеі ў Бога,
Ён — Надзея.

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Баран

Баран безупынна разганяўся і з дзікім імпэтам лупіў ілбом у дрэва. Балючая гульня ўвайшла ў яго кроў. Ніхто не даў рады адхіліць яго ад шкоднай звычкі. Не было да яго прыступу. Яму не прыходзіла ў галаву, што з-за яго гульняў цярпіць дрэва. Ды калі аднойчы баран грукнуў у дрэва і паламаў рогі, ніхто не здзівіўся. Вядома — апрача нашага барана! Ён адразу аблаяў дрэва, ды абвінаваціў яго ў сваім няшчасці.

А дрэва памаўчала і кажа:

— Усе бачылі хто бадаў і грукатаў рагамі! Ды навошта шукаеш вінаватых?

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Андрэй ХАДАНОВІЧ

## Грыбы

Мчыць машына, дым з трубы —
З дзедам едзем у грыбы.
Шмат грыбоў, што ёсць у лесе,
У маё вядзёрка ўлезе.

Адыходжу крок ад сцежкі,
Мне насустрач — сыраежкі.
Я бяру адну і дзве,
І яшчэ адна ў траве.

Назбіраю шмат грыбоў,
У мяне да іх любоў.
Можа — сто, а можа
— дзвесце,
Каб і татка мог пад'есці.

А яшчэ грыбоў на ўзгорак
Пакладу я — для вавёрак,
Каб і тут было каму
Харчавацца ўсю зіму.

## УВАГА КОНКУРС! № 41-18

**Яна — спрытная ласуня,
не абміне гнёзд птушыных,
палюе на вавёрак і зайцоў.
А чорны кажушок яе —
жаданая здабыча для паляўнічага.
к.....**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 21 кастрычніка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 37: алень. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Дам'ян Карнілюк і Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Маляванка — мястэчка Ружаны

Ружаны ведаем з-за палаца Сапегаў. Мястэчка па дарозе з Гродна ў Берасце згадваецца ў пісьмовых крыніцах напрыканцы XV стагоддзя. У тыя часы Ружаны славіліся вытворчасцю сукна і дываноў, мастацкіх паясоў, керамікі. Тут жа праходзілі вялікія кірмашы.

У 1598 годзе маёнтак у Ружанах купіў Леў Сапега — знакаміты магнат і палітычны дзеяч, адзін з аўтараў Статута Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта па яго загадзе ў пачатку XVII стагоддзя тут пачалося грандыёзнае будаўніцтва. У Ружанах з’явіўся замак з трыма вежамі, які спалучае ў сабе рысы абарончай крэпасці і параднага палаца.

Палацавы комплекс у Ружанах — адзін з унікальных куткоў Беларусі, найпрыгажэйшы ансамбль, які называюць беларускім Версалем.

У палацы ў апошнія гады вядуцца рэстаўрацыя ды аднаўленне.

**Ружаны**

*Над горадам малым, шматвекавым,*
*З гісторыяй, касцёламі і цэрквамі,*
*Палац узнёсла панаваў між іншым,*
*Як і ўяўленне наша аб былым.*
*Але ў мінулым надта горкі дым.*
*Меч званкі быў заглушаны гарматай.*
*Разбураны палац... і,*
*Што між іншым,*
*Як і ўяўленне наша аб былым.*

**Сяргей Амяльчук**



*Малюнак на аснове выцінанкі «Ружаны» — Юрый Малышэўскі*



**На ўроку у НШ св.св. Кірылы і Мяфодзія**

# З народнага календара

Нашы продкі назіралі з’явы ў прыродзе і па іх прагназавалі будучае надвор’е.

Паназірайце і вы! Будзе бачна, ці старыя метады падыходзяць да нашага часу. Апрача гэтага, пабачыце, як прыемна назіраць і думаць пра родную прыроду!

* * *

Гусі адлятаюць у вырай — зіму на хвастах цягнуць.

* * *

Першы восеньскі снег з завірухаю — прыкмета доўгай восені з чыстымі снегападамі.

**(з-ка)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 41-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 37-2018:**
Прыз, Ас, пяро, картка, грошы, Ас, груша, зло, ажыны, Ака, ява. Пуп, гра, ружа, кошык, пашана, яры, арт, сокал, асоба.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Кацпэр, Корнэль, Крыстыян, Зося, Наталля** з Залук, **Дам’ян Карнілюк, Вікторыя Гаць, Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

***PS. Удзельнікаў конкурсу просім называць імя і прозвішча, а таксама школу.***

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Deszcz | | | | | | Hit | | Przecinek |
| Chleb / Chrzan | Dziadek / Łój | | | i | | Rok / Len | | | |
| | | | | Plan | Lot | | | | Iskra |
| | | | Plotki / Kraj | | | | | | |
| | | Klon / Brama | | | | | As | | |
| | Brat / Krach | | | | | Czapla | | | |
| Ród / Dźwig | | | | | Gatunek literacki | | | | |
| Raj | | | | Pas | | | | | |
| | | | Tam | | | Bierz | | | Chińskie imię |
| Nieżonaty chłopak | | | | | | | | | |

№ 41 [14-10-2018]




# 520 гадоў Гарадку

**У суботу, 29 верасня 2018 года ў Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку жыхары і ўлады Гарадка ды іх госці адсвяткавалі 520-годдзе Гарадка, з гістарычным напамінам і мастацкай часткай пра шматкультурную спадчыну Гарадоцкай зямлі. Пра апошнія падзеі і дасягненні 20 гадоў развою Гарадка і Гарадоччыны расказаў войт Веслаў Кулеша, які з радай кіруе Гарадоцкай гмінай 20 гадоў, а ў глыбіню стагоддзяў сягнула Вера Тарасэвіч, якая з вучнем Барташом на табліцах паказалі ход гісторыі іх роднага месца.**

- XII ст. — узнікненне паселішча
- Перад 1483 г. — наданне Івану Хадкевічу маёмасцей паміж Нарвай і Супраслю; пасля яго смерці Гарадок дастаецца ў спадчыну ягоным сыну Аляксандру, пасля ўнуку Рыгору.
- Пералом XV і XVI стагоддзяў — пабудова ў Гарадку драўлянага замка з царквой св. Іаана Багаслова на месцы ўмацаванага града.
- Палова XVI стагоддзя — Гарадок атрымаў гарадскія правы і стаў сядзібай буйной уласнасці.
- 1567 г. — Рыгор Хадкевіч, другі сын Аляксандра, атрымаў ад караля Жыгімонта Аўгуста вёскі Белявічы, Меляшкі і Зарэчаны.
- Пасля 1572 г. гарадоцкая маёмасць пераходзіла з рук у рукі Сапегаў, Пацаў, Валовічаў, былі «арэндай» Яна Клеменса Браніцкага, уладальніка Беластока. Пасля валодалі ім Мнішхі, Патоцкія, Радзівілы.
- Пачатак XVIII стагоддзя — у час Вялікай Паўночнай вайны замак у Гарадку быў разбураны.
- Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. Гарадок апынуўся ў межах Прусіі.
- 1807 г., пасля заключэння Тыльзіцкага міру — Гарадоцкая зямля была ўключана ў склад Расіі.
- 1862 г. — пабудова ў Гарадку могілкавай царквы Пакрова Божай Маці.
- 1857 г. — пабудова капліцы св. Анны ў Каралёвым Мосце.
- 29 красавіка1863 г. — ва ўрочышчы Перацёсы адбылася «Бітва пад Валіламі», самая вялікая на Беласточчыне бітва Студзеньскага паўстання.
- 1886 г. — 2 км ад Гарадка правялі чыгуначную лінію Беласток — Ваўкавыск.
- 1897 г. — Гарадок страціў гарадскія правы.
- Пачатак XX ст. — пачынае фармавацца мясцовая беларуская традыцыя і культура; на старонках віленскай «Нашай нівы» паказваюцца вершы Сцяпана Пятэльскага (пс. «Арол») з Гарадка і Івана Дарашкевіча (пс. «Каршун», «Янук Д.») з суседніх Меляшкоў.
- 1915 г. — бежанства праваслаўных жыхароў у глыб Расіі. У Гарадок увайшлі немцы.
- Пачатак сакавіка 1919 года — гміна Гарадок апынулася ў межах адроджанай польскай дзяржавы.
- У 1931 г. Гарадок налічваў 2554 чалавекі, працавалі тэкстыльныя заводы, завод шкіпінару, з боку Зарэчан цагляны завод, былі сталярні, алейны завод, два млыны, пякарні, кандытарская, крамы.
- У 1933-1936 гады быў пабудаваны ў Гарадку касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса; яго асвячэнне адбылося 6 кастрычніка 1937 года.
- 1937 г. — электрыфікаваны цэлы Гарадок.
- Пачатак верасня 1939 г. (12.09.) — уваход салдат Вермахта ў Гарадок.
- Сярэдзіна верасня 1939 г. — настаў «час саветаў».
- 29 лістапада 1939 г. — пастаянныя жыхары Гарадоцкай зямлі сталі грамадзянамі СССР.



- 26 чэрвеня 1941 года — 20 ліпеня 1944 года — нацысцкая акупацыя Гарадоччыны.
- Ноч з 31 кастрычніка на 1 лістапада 1943 г. — ліквідацыя гарадоцкага яўрэйскага гета.
- 3 ліпеня 1943 г. — пацыфікацыя вёскі Папоўка.
- 14 кастрычніка 1943 г. — пажар у Гарадку, які спаліў драўляную царкву Нараджэння Прасвятой Багародзіцы і навакольныя дамы.
- 20 ліпеня 1944 г. — у Гарадок уваходзяць салдаты Чырвонай Арміі.
- 1944 г — заснаванне сельскагаспадарчага кааператыва «Сялянская самапомач» у Гарадку.
- 3 верасня 1944 г. у Гарадку працавала паўзэхная школа. У 1947 годзе ў гміне працавала 14 школ.
- 16 верасня 1948 г. — пачалі ў Гарадку пабудову новага моста праз раку Супрасль.
- 14 сакавіка 1957 г. нараджаецца Лявон Тарасэвіч, выдатны мастак жывапісец, прафесар Акадэміі мастацтваў у Варшаве, ініцыятар і першы старшыня Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, прыхільнік і абаронца гістарычнай беларускай культурнай тоеснасці гміны і рэгіёна, беларускі дзеяч, захоплены развядзеннем дэкаратыўных курэй; жыў у Валілах-Станцыі, ад канца васьмідзясятых гадоў жыве і ствараe ў арандаваным, а пасля купленым у гміны даваенным школьным будынку ў вёсцы Валілы.
- У чэрвені 1959 цэнтр прамысловасці перадаў завод у Гарадку для Барташыцкага завода трыкатажнай прамысловасці і пачалася вытворчасць. У 1964 г. БЗТП у Барташыцах перадаў завод Прадпрыемству трыкатажнай прамысловасці «Каро» ў Седльцах. 1 мая 1995 г. камісарны менеджар сядлецкага «Каро» загадаў ліквідацыю завода ў Гарадку.
- Школьны 1959/1960 год — каля 400 вучняў вучылася ў новапабудаваным будынку школы на рагу вуліц Свярчэўскага і Фабрычнай. Чарговы будынак быў перададзены ў 1980 годзе.
- 1961 г. — увод у эксплуатацыю будынка Цэнтра здароўя па вуліцы Фабрычнай.
- 6 чэрвеня 1965 г. — адкрыццё пабудаванага ў гарадскім пачыне Дома культуры імя Канстанціна Каліноўскага ў Гарадку.
- У 1946-1970 гады была пабудавана прыхадская царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў Гарадку, асвячэнне адбылося 15.06.1970 г.
- 29 сакавіка 1978 г. — увод у эксплуатацыю першага будынка ў жылым раёне ў Гарадку. У 1982-1991 гады пабудавалі яшчэ 8 будынкаў.
- 11 верасня 1983 г. — адкрыццё ў Гарадку абеліска ў гонар адзначэння гміны Ордэнам Крыжа Грунвальда III ступені.
- 27 мая 1990 г. — першыя дэмакратычныя выбары ў самаўрад (падчас выбарчай кампаніі паказваецца «Голас Гарадка» — часопіс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Гарадку, якое здабыло 17 з 20 мандатаў).
- 13-15 ліпеня 1990 г. — ва ўрочышчы Барык арганізуецца першы выпуск Фестывалю музыкі маладой Беларусі «Басовішча».
- 1994 — паказваецца першы нумар двухмесячніка «Wiadomości Gródeckie — Гарадоцкія навіны» (з 1995 г. штомесячніка)
- 5 снежня 1998 г. — запуск пасажырскага пагранперахода ў Баброўніках.
- 12 кастрычніка 2000 г. — урачысты ўвод у эксплуатацыю вадасховішча ў вёсцы Зарэчаны.
- 2004 г. — пасля ўваходу Польшчы ў Еўрасаюз мясцовы самаўрад зрэалізаваў шэраг інфраструктурных і камунальных інвестыцый, якія змянілі від гміны...

У фае ГЦК можна было пагаядзець выставу здымкаў, апрацаваную Верай Тарасэвіч і Альжбетай Грэсь, а ў час падзеі на сцэне — мультымедыйны паказ «Кароткае падарожжа праз стагоддзі» — прэзентацыя памятных месцаў у Гарадку ў мінулым і сёння — падвядзенне праекта «520-годдзе Гарадка». Мастацкую частку падрыхтавалі калектывы з гарадоцкай гміны, пачынаючы ад дзіцячай «Казкі», якая выканала песню пра Гарадок на верш Віктара Шведа, а моладзь паказала сцэны ў касцюмах з гісторыі Гарадка ды тэатр ценяў з пабудовы замка ў Гарадку.

Падчас цырымоніі абвясцілі вынікі першага выдання Узнагароды войта Гарадоцкай гміны «Белы Грыф». У катэгорыі дзейнасці ў сацыяльнай сферы за вяздзенне намаганняў па прыцягненні ўвагі моладзі да патрэб свету, дзяцей, дарослых, жывёл і інтэграцыю розных пакаленняў узнагароду атрымаў школьны гурток валанцёраў «Памочнікі» разам са сваімі апякункамі. Аліна Госцік: «Я хацела б падзякаваць вам за прэстыжную ўзнагароду «Белы Грыф». Гэта вялікі гонар, высокая ацэнка работы маладых добраахвотнікаў і іх бацькоў, якія працуюць і дзейнічалі ў школьным гуртку добраахвотніцтва ў папярэднія гады. Першую дзею для маючых патрэбу мы правялі ў 2005 годзе. З таго часу, праз валанцёрства мы маглі сустрэць так шмат выдатных людзей, кіруючыхся ў жыцці, як і мы, дэвізам, што добры ўчынак вяртаецца як бумеранг. Людзей з добрым сэрцам, бескарыслівых, адчувальных да патрэб іншых. Адчуваючых, што тое што робім мае сэнс, што дзейнасць прыносіць вялікую каштоўнасць для жыцця. Гэта асабліва важна для маладых людзей. Думаю, што гэтая ўзнагарода дазволіць паказаць моладзі сваю моц, пусціць парасткі, заквітнець і выдаць плады ў будучыні. Для мяне, для Монікі, іншых настаўнікаў, дырэкцыі гарадоцкай школы найвялікшай узнагародай з'яўляецца перакананне, што праз адукацыю ў духу добраахвотніцтва, талерантнасці, любові, дабрыні, павагі да іншых людзей здзейснім свае мары аб тым, што кожны з нашых вучняў вырас не толькі на ідэальнага выпускніка нашай школы, але і цудоўнага чалавека, сумяшчаючага сваю працу з пасіяй спазнавання».

Магда і Ян Лотыш (трэнер «Грыфа» Гарадок) атрымалі «Белага Грыфа» за прасоўванне спорту, дзейнасць дзеля дзяцей і моладзі.

Лявон Тарасэвіч атрымаў спецыяльную Узнагароду Войта Гарадоцкай гміны «Белы Грыф»за прамоцыю Гарадоцкай зямлі праз яго творчую дзейнасць, намаганні па павышэнні свядомасці грамадства Гарадоцкай гміны: самаўрадавую актыўнасць пасля палітычнай трансфармацыі пасля 1990 года, актыўнасць у сферы сацыяльных нізавых дзеянняў шляхам заснавання Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, якое культывуе спадчыну гміны, ініцыяванне і сустварэнне да сёння выдаванага часопіса «Wiadomości Gródecki — Гарадоцкія навіны» і прасоўванне тутэйшага культурнага і гістарычнага багацця ў свеце.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

**Смяецца, што вёска выглядае як у XVI стагоддзі. Свой дом у Плютычах супольна з мужам памалявала на зялёны колер, пакідаючы выразкі і беларускія арнаменты. Падляшская вёска з'яўляецца прывабнай прасторай, у якую ахвотна прыязджаюць «вясковыя гараджане». Здаецца, што менавіта ад такіх людзей пачынаецца многа спраў, якія адбываюцца ў нашай глыбінцы. Часта рухавіком цікавых акцый з'яўляюцца жанчыны. Між іншым гэтыя звонку.**



**— Калі Падляшша стала для Вас другім домам?**

**Андрэа Фалькоўская:** — Мы купілі хату ў Плютычах у 2015 годзе. Якраз у кастрычніку мінае тры гады. Уласнікам хаты быў старэйшы мужчына, у якога не было дзяцей. Ён вельмі цяжка хварэў. Памёр некалькі месяцаў пасля таго, як мы купілі гэтую хату.

**— Ведаеце гісторыю гэтага месца?**

# ГАРАДСКІЯ
## аднак усе затопленыя ў вёсцы...

**А. Ф.:** — Так, ведаем. Нават захавалася крыху фатаграфій на якіх відаць, як хатка выглядала раней. А зараз памаленьку яе рамантуем, захоўваючы яе арыгінальны характар.

**— Ваш дом у Плютычах быў сёлета**




**вылучаны ў конкурсе на найлепш захаваны будынак драўлянага дойлідства. Журы належным чынам ацаніла спосаб, у які ахоўваеце спадчыну Падляшша. А што Вас схіліла выбраць менавіта гэтае месца і гэтую хатку?**

**А. Ф.:** — Мне можа не так спадабалася сама хата, як вёска. Тут яшчэ захаваўся своеасаблівы архітэктурны лад. Яна, з таго, што ведаем, выглядае як у XVI стагоддзі. Такіх хатак як наша на Падляшшы вельмі многа, але тут яны ўпарадкаваныя і ствараюць суцэльны комплекс аднаго тыпу хатак. Апрача таго — лавачкі... Мы самі не нарадзіліся ў Плютычах, але стараемся як мага больш часу праводзіць у нашай хатцы.

**— Вы наогул да нядаўна зусім не былі звязаныя з гэтым рэгіёнам. Чаму выбралі менавіта гэтае месца?**

**А. Ф.:** — Так! Муж з поўначы Польшчы. Я нарадзілася ў Чэхіі. Маці нарадзілася яшчэ ў Чэхаславакіі. Мой бацька — паляк. Я сама ўжо вырасла ў Варшаве. Такая мяшаная сям'я. Там засталася бабуля, цёця, якіх стараемся наведваць. Але я самая ўжо згэтуль. Мы звязаліся з Падляшшам у вялікай ступені дзякуючы майму мужу, які часта сюды ездзіў на роварах. І пазней аказалася, што маем файную хатку на вёсачцы (*смех*).

**— Менавіта любоў да Плютыч была інспірацыяй для заснавання фанпейджа ў фейсбуку і для стварэння інтэрнэт-старонкі plutycze.com?**

**А. Ф.:** — Напэўна. Там пішам пра розныя аспекты жыцця на вёсцы. Стараемся таксама паказваць гэта людзям звонку. Плютычы — месца незвычайнае, цудоўнае. Мала людзей пра такія месцы ведае. Пакуль што жывём у Варшаве. На жаль, яшчэ не ўдалося так сарганізаваць жыцця, каб можна было зарабляць, жывучы ў Плютычах (*смех*). У Варшаве трымае нас работа, але ў кожную свабодную хвіліну ці выхадныя стараемся прыехаць на вёску.

**— На вашым сайце можна знайсці кароткія тэксты пра вёску і здымкі з яе будзённага жыцця. У фейсбуку з'яўляецца многа каментарыяў. Вы чакалі такога водгуку?**

**А. Ф.:** — «Запрашаем у віртуальнае падарожжа ў Плютычы» — так пачынаўся першы тэкст, які мы змясцілі на сайце. Хочам проста паказаць свету цікавую і прыгожую вёску. Цэлы час стараемся закідаць нешта новае. У той вёсачцы таксама праходзяць розныя мерапрыемствы, святкаванні. Тут нешта адбываецца. Пачало адзывацца шмат людзей, якіх мы нават не ведалі. Гэта асобы звязаныя з Плютычамі, тут нарадзіліся, але зараз жывуць у Беластоку, Бельску ці ў іншых гарадах. Вельмі пазітыўна ўспрынялі яны наш фанпейдж. Дасылаюць нам свае здымкі, або даўнія фатаграфіі, пытаюцца, ці могуць нешта напісаць. Таксама пачалі аб'ядноўвацца — перапісваюцца на нашым фанпейджы. Дзякуючы таму таксама пазнаем розныя гісторыі і людзей, якія тут выхаваліся. Сайт ці фанпейдж дазваляе ім даведацца як выглядае зараз родная вёска і што ў ёй чуваць нават калі самі ўжо тут не жывуць і не прыязджаюць. Вёска нам дала вельмі многа, а гэта толькі маленькая форма падзякі.

**— А я дзякую за размову.**

Гутарыла **Уршуля ШУБЗДА**



3 ☞ працяг

## Драўляныя скарбы

Пры выхадных дзвярах знаходзіцца ганак з востраверхім дахам, абапертым на шасці слупках. Дах пакрылі бляха-дахоўкай. Унутры дом падзелены на два пакоі, кухню, камору і сені. У кухні стаіць кафельная печка з каптуром і ляжайкай. Сярод мэблі ўвагі заслугоўвае шлабанчык з аздобленай спінкай і мезараваны куфар, на сценах вісяць алеадрукі, фатаграфіі, макаткі і вышываныя ручнікі. Жуеры даценіла гармонію выгляду звонку і ўнутры цэлага дома, яго абсталяванне ў драўляную мэблю і дэталі.

Тры другія месцы за свае жылыя помнікі атрымалі Ян Туроўскі (Сацы, 181, гміна Нарва) і Яўген Матуевіч з ляснога хутара ў Рагачах, 90 (гміна Мілейчычы) ды Альжбета Барысюк з Пэркаў-Выпыхаў у гміне Саколы. Аж шэсць трэціх месцаў здабылі: Альжбета Кабаць (Нараўка, вул. Міцкевіча 41/ 2), Адам Зімінскі з Райгроду, Моніка Сельская (Сацы 184, гміна Нарва), Міраслаў Ангельчык (Карыціны, 73, гміна Гродзіск), Яўген Чыж (Пэлх 48, гміна Пэрлеева) і Эва Сулейчык (гаспадарчы будынак, Кабыля, 14, гміна Пэрлеева).

Будынкі вылучаныя — а іх сёлета 8, а таксама з мінулых гадоў, могуць прымаць удзел у конкурсе другі раз, калі штосьці ў іх зменена і папраўлена дзеля ўдасканалення і вяртання добрага былога стану, дададзены новыя элементы з драўніны. Сёлета вылучаны дамы Барбары Жукоўскай і Міхала Ялінскага (хата, вул. Трапінка, 11, Белавежа), хата Андрэі і Мацея Фалькоўскіх у Плютычах, 69, гміна Бельск-Падляшскі, хата Андрэя Каліноўскага (Міклашэва, 9, гміна Нараўка), хата Анны і Ірынея Старакаў (Нарва, вул. Бельская, 27), шпіхер Малгажаты Марыі Малешка (Новае Выкна, 25, гм. Кулешы-Касцельныя), дом Мацея Караleўскага (вул. Вспульна, 27, Цехановец), хата Тадэвуша Кунцэвіча (Лешукі, 22, гм. Нараўка) і хата Вікаса і Віялеты Сангараў (Лешукі, 29, гм. Нараўка).

■ Яўген Матуевіч

■ Ян Туроўскі

— Апошнім уласнікам нашага дома ў Лешуках быў мой дзядзька, мамін брат, памерлы ў 2012 годзе, — кажа Вікас Сангар. — Сям'я рашыла апісаць дом на мяне. Паколькі абое з жонкай працуем у Беластоку, хата больш як наш домік на лета. Рамантавалі мы яго тры гады. Фундамент складаецца з камянёў споеных бетонам. Сцены ў зруб, абіты на рагах. Захаваны драўляныя дубальтовыя вокны. Мэбля новая, апрача буфета, стала, куфра і крэсел. Мая жонка гадуе цяпер пчол, мае пакуль 16 вуллёў. Так што — наша хата не адна.

— Наша хата, — кажа іхні сын Аляксандр-Іва, з гонарам прыціскаючы да грудзей дыплом. Дарэчы, на завяршэнні сёлетняга выпуску конкурсу было вельмі многа дзяцей і моладзі, якія прыехалі з бацькамі, дзядамі і прадзедамі. Успаміналіся таксама імёны дзядоў і прадзедаў цяперашніх уласнікаў спадчынных хат. Ёсць надзея, што не прападзе наша, вяковая драўляная хата, якая выгадавала нямала душ.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**



Адной з самых першых арганізацый, якія паўсталі ў Беларусі падчас перабудовы, было Таварыства беларускай мовы, якому налета споўніцца роўных трыццаць гадоў. З часу ўзнікнення арганізацыя прыдбала даволі значны аўтарытэт як у грамадстве, так і ва ўладзе. Апошняя разглядае ТБМ-аўцаў як своеасаблівую прамежкавую структуру, якую немагчыма цалкам аднесці да апазіцыйных, але і сваім ТБМ чыноўнікі таксама лічыць ніяк не могуць, хаця б з прычыны трывалага стаўлення Таварыства да беларускай мовы як галоўнага набытку народа. І вось каб несці беларускім людзям, якія з лёгкасцю пазбаўляюцца ад беларускага слова, свае погляды, ТБМ выдае ўласны тыднёвік „Наша слова".

Калі цікаўнаму карыстальніку захочацца пазнаёміцца з электроннай версіяй выдання, якое, дарэчы, выходзіць і ў папяровым выглядзе, яму варта знайсці адрас у інтэрнэце **www.nslowa.by**. Нягледзячы на тое, што і арганізацыя, і газета існуюць ужо даўно, сайт „Нашага слова" нельга назваць нейкім сучасным і з мноствам аздабленняў. Галоўная старонка сустракае наведвальніка даволі сціплым выглядам, дзе пазначаны некалькі вынісцяў на рубрыкі і анонсы паведамленняў. Праўда, інфармацыя на сайце абнаўляецца рэгулярна, і гэта не можа не радаваць, калі ўлічыць гісторыю „Нашага слова". „Выданне давалася з сакавіка 1990 года ў Мінску як штотыднёвы бюлетэнь. Са студзеня 1991 да красавіка 1997 года — штотыднёвая газета. Змяшчала інфармацыйныя, публіцыстычныя, гістарычныя, палемічныя, агітацыйныя і мовазнаўчыя матэрыялы па праблемах беларускай мовы і культуры. 26 верасня 1997 года Рэспубліканская рада ТБМ прыняла пастанову аб узнаўленні выдання, якое было даручана Лідскай радзе ТБМ. З лістапада 1997 газета выходзіць у Лідзе як прыватнае штотыднёвае выданне для дзяцей старэйшага ўзросту. Уваходзіць у склад „Асацыяцыі выдаўцоў рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя Масмедыі»", — распавядаецца пра выданне на старонцы „Пра нас". З такога расповеду застаецца шмат незразумелага і ўзнікае шэраг пытанняў. Па-першае, няўжо за 21 год, калі выданне было адноўлена, не адбывалася з ім ніякіх значных падзей? Па-другое, калі яно чамусьці і дагэтуль пазіцыянуецца як выданне для дзяцей, хоць і нейкага старэйшага ўзросту (можа старэйшага школьнага?), то чаму на яго сайце можна знайсці такія недзіцячыя тэмы як пра крымінальны пераслед журналістаў ці публікацыю картатэкі КДБ? Пералік пытанняў можна працягнуць, але наўрад ці патрэбна, калі ўвогуле паўсталі вышэйзгаданыя. І адказам на іх можа быць адно — уладальнікі сайта, пры ўсёй павазе да іх, не надта клапоцяцца пра яго імідж і насычэнне актуальнай інфармацыяй, якая б данасіла да чытача карысныя звесткі пра выданне.

Што ж тычыцца рубрык, то яны носяць назвы „Навіны", „Грамадства", „Мова", „ТБМ", „Культура", „Навука", „Выданні", „Спорт", „У свеце". Праўда, шмат якая інфармацыя ў іх не з'яўляецца ўласнай, гэта значыць „Наша слова", прынамсі на сваім сайце папросту перадрукоўвае з іншых крыніц тое, што падасца цікавым рэдакцыі. У дадзенай сітуацыі, калі беларуская мова ўсё больш і больш губляе свае пазіцыі ў беларускім грамадстве, падаецца, што для „Нашага слова" расповед пра тое, што карціна Бэнксі самазнішчылася пасля продажу на Сотбіс за 1,4 млн. долараў не павінна быць вартым увагі.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

## 115 гадоў з дня нараджэння Лявона Рыдлеўскага

Беларускі палітычны і грамадскі дзеяч Лявон Рыдлеўскі нарадзіўся 14 кастрычніка 1903 г. у мястэчку Ульянавічы тагачаснай Магілёўскай губерні (цяпер Сенненскі раён Віцебскай вобласці).

Відавочна, што на фармаванне светагляду юнака паўплывалі бурлівыя падзеі пачатку дваццатага стагоддзя і абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1917-1920 гг. Рыдлеўскі навучаўся ў Слуцкай беларускай гімназіі, быў сябрам вядомага культурна-асветніцкага гуртка Папараць-кветка. Быў адным з самых маладых удзельнікаў (яму было толькі 17 гадоў) антыбальшавіцкага Слуцкага паўстання 1920 г. і антысавецкага партызанскага руху на Палессі да 1921 г.

Пазней, у 1923 г. Рыдлеўскі скончыў Віленскую беларускую гімназію, а ў 1929 г. — Вышэйшы політэхнічны інстытут у Падэбрадах (Чэхаславаччына). У час навучання ў Чэхаславаччыне быў сябрам Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый замежжа і Заходняй Беларусі. У 1929 г. разам з Міколам Абрамчыкам, сваім добрым сябрам і аднагодкам, пазнейшым старшынёй Рады БНР, выехаў у Францыю. У яе сталіцы Парыжы быў ініцыятарам стварэння і адным з кіраўнікоў Хаўруса беларускай працоўнай эміграцыі ў Францыі ў 1930-1931 гг. На пачатку Другой сусветнай вайны дамогся дазволу вызваляць беларусаў у складзе французскага замежнага легіёна. Ён быў толькі адным з каля сарака жаўнераў, якія засталіся пасля сутыкнення з Вермахтам, але правеў усю Другую сусветную вайну ў партызанцы. У час акупацыі Францыі ўдзельнічаў у французскім Супраціве. Пасля вайны ён быў адным з тых, хто спрычыніўся да ўратавання каля двухсот беларусаў з Даніі ад выдачы сталінскаму ўраду.

У 1945-1947 гг. Лявон Рыдлеўскі выдаваў газету „Беларускія навіны". Усяго ў Парыжы выйшла 8 нумароў гэтай газеты. У 1947 г. Рыдлеўскі абраны сакратаром Прэзідыума, пазней — віцэ-прэзідэнтам Рады БНР. У лістападзе 1948 г. на Першым сусветным з'ездзе беларускай эміграцыі выбраны старшынёй Сусветнага аб'яднання беларускай эміграцыі. Жыў у Вялікабрытаніі. Падтрымліваў цесныя сувязі з Беларускім домам ордэна марыянаў, іншымі беларускімі рэлігійнымі арганізацыямі.

Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР так успамінае пра яго: „Я памятаю Лявона Рыдлеўскага з Парыжа. Калі мы туды прыехалі, мне было толькі 12 гадоў. Ён нас спаткаў. Ён тады намі апекаваўся. Ён фактычна быў апекуном усіх новапрыезджых беларусаў у Парыжы. Усім памагаў. Жыў вельмі цяжка, але быў сапраўды адданы свайму народу".

Лявон Рыдлеўскі памёр 24 кастрычніка 1953 г., быў пахаваны на могілках Гемпстэд у Лондане. 11 снежня 1955 г. на ягонай магіле быў усталяваны помнік, які пазней знік. Аднак у Скарынаўскай бібліятэцы захаваліся здымкі помніка. Пытанне аднаўлення мемарыяла было ўзнятае Згуртаваннем беларусаў у Вялікабрытаніі, якое выдаткавала неабходныя сродкі. Наталля Гардзіенка, гісторык з Менска, і сябры суполкі Беларуская нацыянальная памяць расшукалі арыгінальнае месца пахавання Рыдлеўскага. Пасля доўгай перапіскі Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі з мясцовымі ўладамі атрымалі дазвол аднавіць помнік на цяпер ужо закрытых могілках. 27 лістапада 2010 г. помнік Лявону Рыдлеўскаму быў адноўлены. На яго адкрыцці малебен правёў айцец Сяргей Стасевіч.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Адляцелі жураўлі

Сёлета раней сама менш на дзесяць дзён чымсьці ў мінулым годзе адляцелі з нашых мясцін буслы. Стаялі тады гарачыя дні і была суша — без пары высахла трава на лугах і ў равах, памялелі рэкі. Буслам было цяжка пракарміцца.

24-25 верасня надвор'е рэзка пахаладзела і ў далёкую дарогу на цёплы поўдзень падаліся, між іншым, жураўлі і дзікія гусі. Пад вечар 24 верасня над вёскамі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ў вядомым ім строю ляцелі жураўлі. Чуваць іх было здалёк. Яны плаўна ляцелі і даволі гучна пераклікаліся (так ужо ў іх заведзена, мабыць, каб удзень ды поцемку вечарам і ноччу не адставаць ад статка і не пагубіцца).

Пасля поўдня, вечарам ды ў пачатку бясхмарнай і месячнай ночы 25 верасня над Новым Ляўковам, Новінамі, Лазовым, Плянтай і Сушчым Барком хутка ляцелі то жураўлі, то невялікія чародкі гусей (яны таксама як і жураўлі пераклікаліся паміж сабой). Многа іх ляцела і ўсе спяшалі, каб хутчэй. Ноччу з 25 на 26 верасня меўся быць прымаразак і тэмпература паветра 2-3 градусы ніжэй нуля (такі прагноз я чуў вечарам, слухаючы Польскае радыё). Шчаслівай ім дарогі!

Дык што, будзем чакаць іх прылёту вясной 2019 года. **(яц)**

# Невідучыя святкавалі ў „Бора-Здруй"

22 верасня гэтага года невідучыя (50 асоб) з Гайнаўскага і Бельскага паветаў святкавалі г.зв. Дзень белай палачкі ў Агратурыстычнай кватэры „Бора-Здруй" у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Гасцінна прынялі іх Людміла і Барыс Казлоўскія, якія займаюцца агратурызмам. Мерапрыемства арганізавалі Аліцыя Пліс, старшыня Гуртка Польскага саюза невідучых (ПСН) у Гайнаўцы і Януш Пух, намеснік старшыні.

Найбольш часу прысвяціў усім зацікаўленым гасцям спадар Барыс. Ён паказаў цікавінкі ў сваёй сядзібе і на панадворку, між іншым, сямейны музей з колішнімі сельскагаспадарчымі прыладамі неабходнымі ў працы на полі, сенажаці і ў стадоле ды рэчы да падрыхтоўкі ежы на кухні ў мінулым стагоддзі. Цікава было агледзець, якімі прыладамі карысталіся нашы продкі пры апрацоўцы драўніны і ўвогуле, што рабілі з дрэва. Іншая навінка гэта асобнае памяшканне, у якім спадар Барыс змясціў каляровыя фотаздымкі ўсіх цэркваў на Падляшшы і не толькі. Ёсць тут і макет, дзе той ці іншы храм знаходзіцца на тэрыторыі Беласточчыны. На панадворку знаходзіцца вялікі макет царскага палаца ў Белавежы. Цар жыў у ім, калі прыязджаў у пушчу на паляванне.

У вялікім гасцінным зале невідучыя мелі пачастунак, слухалі даклад спадара Барыса на тэму, як жыць, каб здаровым быць, слухалі беларускія песні і танцавалі. Прыгожыя беларускія, польскія і рускія песні спявала невідучая салістка Юліта Кічкайла з Гайнаўкі. Усе ўдзельнікі мерапрыемства ў „Бора-Здруй" зрабілі сабе памятныя здымкі.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Міхалоўская гміна прыгажэе

Зараз у Міхалоўскай гміне Беластоцкага павета пабудавалі, між іншым, санітарную каналізацыю ў вёсцы Новая Воля (налічвае яна 290 жыхароў). Пабудавалі прыгожыя пляцоўкі для дзіцячых гульняў у Новай Волі, Тапалянах і ў Юшкавым Грудзе. Адрамантавалі некаторыя мясцовыя дарогі, у тым ліку на лугі і сенажаці. Летам у цэнтры Міхалова было многа кветак. І было прыгожа, калярова. Адбылося тут многа цікавых культурна-забаўляльных мерапрыемстваў на свежым паветры ў амфітэатрах. Выступалі знакамітыя мастацкія калектывы, у тым ліку і замежныя. Летнія фэсты, у тым ліку беларускія, ладзілі, між іншым, у Бандарах, Саколі, Юшкавым Грудзе і Ялоўцы. Міхалоўская гміна адна з багацейшых у Падляшскім ваяводстве.

За грошы з г.зв. салэцкага фонду запланавалі пабудаваць святліцу ў Патоцы (58 жыхароў), альтанкі ў Бахурах, Навасадах, Шымках, Цісоўцы і ў Жэдні, прыстрэшак у прыгранічнай Ялоўцы, добраўпарадкаваць стары парк у Ялоўцы ды зрабіць у ім алейкі, электраасвятленне і фантан (гэта вялікая вёска — 245 жыхароў). Тады будзе куды прыгажэй.

На пясчаным правым беразе Семяноўскага возера тут жа за Гарбарамі пабудаваалі, між іншым, драўляную высокую вышку і доўгі драўляны г.зв. памост над люстрам вады, на які вядуць усходы з берага. На ўзлеску стаяць туалеты. Усюды на беразе і ў лясочку чыста і парадак. Турысты з біноклямі і фотаапаратамі ахвотна ўзбіраюцца на вышку, каб агледзець шырокі прастор і водна-балотных птушак (напрыканцы верасня і ў пачатку кастрычніка паляцелі ў вырай жураўлі і дзікія гусі). Дзеці любяць бегаць па драўляным шырокім памосце над плюскаючымі хвалямі. Ім гэта цікава. Ім абы пагуляць, павесяліцца. **(яц)**

# 14.10 — 20.10

**(22.03. — 20.04.)** Многа спраў на галаве, але энергіі хопіць. 18-20.10. цяжкі выбар у пачуццях — што паслухаць: голасу сэрца ці розуму? Пазбягай людзей, якіх не любіш, асабліва 18-20.10. можа дайсці да напружанняў. Змены, таксама ў доме, які схочаш удасканаліць. Новыя прафесійныя перспектывы ў Бараноў з другой дэкады. На працы можаш быць спакойны за кантролі. Як найдалей будзь ад прастуджаных!

**(21.04. — 21.05.)** 14-16.10. твой кашалёк напоўніцца грашыма. На працы будуць мучыць і нерваваць цябе пастаянныя сходы і нарады, асабліва 18-20.10., але толькі працуючы ў калектыве створыш вялікія і арыгінальныя рэчы; цяпер можаш змяніць прафесію, даць шанцы новаму працадаўцы. Ахвотна вернешся ў школу, універсітэт, на курсы, або пачнеш вучыцца таму, што цябе заўжды цікавіла. Не купляй прыхільнасці падарункамі.

**(22.05. — 22.06.)** Удасца табе закончыць важныя справы. 14-16.10. ажывуць старыя сантыменты. Пастаянны партнёр затое не будзе занадта гарачы, будзе хутчэй скрытны, і можа 18-20.10. дайсці да кароткага, але вострага канфлікту. Будзеш рваца да новых заданняў, але трэба будзе спакойна кончыць старыя. Народжаныя ў апошняй дэкадзе няхай засяродзяцца на працы і не вырываюцца з новымі задумамі.

**(23.06. — 23.07.)** Твая краса і інтэлігентнасць будуць заўважаны 14-16.10. Моцная падтрымка на неба. Будзеш займацца важным. 14-16.10. можаш адпаліць старое знаёмства, будзеш запрошаны на сустрэчу выпускнікоў або ў сеціве знойдзеш сваё былое вялікае каханне. Сярод сяброў паявіцца хтосьці новы, вельмі табе блізкі. Рак першай дэкады: не насі цяжкіх рэчаў, вельмі дбай аб свой пазваночнік.

**(24.07. — 23.08.)** Хтосьці новы можа паявіцца ў тваім жыцці, а з ім вялікія жарсці. Магчымыя канфлікты з атачэннем. Але захаваеш аптымізм. 18-20.10. будзеце дзерціся за абы-што; глянь ласкавей на партнёра, забудзь непаразуменні, бо пад канец месяца будзе вялікі крызіс. 18-20.10. не зрабі фальстарту з амбітнымі планамі, пачакай крыху; зрабі план і рэалізуй яго пакрысе. Дбай аб сэрца і ціск крыві, у кастрычніку не раз табе падскочыць.

**(24.08. — 23.09.)** Можаш разлічваць на калег дома і на працы. Дзякуючы ім больш заробіш. Шанцы на шматабяцальныя знаёмствы і лепшую працу (заглядай у сацыяльныя сеткі). Можа танней правесці рамонт дома. Цешся поспехамі і належнай прэміяй, але не спачывай на лаўрах. Добры настрой і форма. Але вельмі нервова вакол цябе можа зрабіцца 18-20.10.

**(24.09. — 23.10.)** Не будзеш нерашучы. 14-15.10. атрымаеш у падарунку мілую драбязу. Пазмагаешся за прызнанне. Перашкод будзе нямала, але дасі рады. Для Шаляў з першай дэкады можа быць крыху шоку: дзве рыскі на тэсце цяжарнасці! 13-17.10. прыйдзецца табе заняцца справамі іншых людзей—памагчы ў хваробе, у патрэбе, у абароне. Аўра спрыяе прафесійным справам. Дойдуць зацярушаныя дакументы, аналізы. Зробіш добрае ўражанне.

**(24.10. — 22.11.)** 10-16.10. мілыя сюрпрызы і дробныя выйгрышы. 18-20.10. абы драбязя можа вывесці цябе з раўнавагі. Творчасць. Сімпатыя шэфа, супрацоўнікаў, багатае кампанейскае жыццё. 18-20.10. настаў вуха на плёткі —даведаешся пра планы і інтрыгі. Гэта можа памагчы перамагчы канкурэнцыю. Не найлепш з формай.

**(23.11. — 22.12.)** Спакойна працуй, пазбягай рызыкі, не ўваходзь іншым у дарогу. Аптымізм і энергія, але палюбіш самоту. 14-16.10. можаш закончыць справы, якія валочацца, доўгія непаразуменні. Аформіш цяжкія справы. Варушыся на свежым паветры.

**(23.12. — 20.01.)** Стабілізацыя. Змабілізуеш сілы і пераможаш ворагаў. Здабывай новыя ўмеласці. Спраўна пакіруеш працай, не толькі сваёй. Рэгулярна практыкуйся фізічна.

**(21.01. — 19.02.)** Не пакінуць цябе аптымізм і самаўпэўненасць. Перашкоды меншыя чым думаеш! Можаш сустрэць кагосьці, з кім хочаш застацца. У пары можа паявіцца напруга; варта правесці ўік-энд у адзіночку. Шэф ацэніць тваё заангажаванне і кемлівасць, дык старайся. Інтэнсіўнае жыццё патрабуе калярыйнага сілкавання.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш папулярны, аколены прыхільнікамі, моцны. Ніхто не будзе абыякавым да тваёй асобы. Не расказвай сваіх сакрэтаў. На працы не ляніся. З лянотай справішся найлепш 18-20.10., будзеш вельмі творчы, будзеш рэалізаваць уласныя задумы. Старайся не бываць сярод хворых, прастуджаных людзей.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм.

1. лісцевае дрэва сямейства вязавых = 32 _ 33 _ 6 _;
2. райская юная прыгажуня ва ўсходняй міфалогіі = 30 _ 31 _ 19 _ 20 _ 5 _;
3. правы прыток Дуная, на якім крыху харвацка-венгерскай граніцы = 17 _ 28 _ 16 _ 21 _ 22 _;
4. выраб з узорыстай тканіны, якім усцілаюць падлогу = 26 _ 15 _ 14 _ 8 _ 11 _;
5. выраб з узорыстай тканіны, які вешаюць на сцяну = 36 _ 37 _ 34 _ 35 _ 38 _;
6. напрыклад рабро = 18 _ 29 _ 12 _ 24 _ 25 _;
7. свінскі нос = 7 _ 10 _ 9 _;
8. рэчыва для мыцця з тлушчу і шчолачы = 1 _ 4 _ 3 _ 2 _;
9. амерыканскі штат з Вялікім Салёным возерам = 23 _ 13 _ 27 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
| | | | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Астроўскі, Арыка, прыступ, садавод, чын, цымус. бандэроль, іспыт, спіна.

Рашэнне: **Пусты колас тырчыць над поўнымі**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.


■ Бацюшка Ігар Пяркоўскі і аўтарка

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

# Плакалі, што ў небе было чуваць!

*— Да, здесь благодать всё время,* — заяўляе бацюшка Ігар Пяркоўскі, — *и она проявлется в каждом сердце как-то странно, как-то особенно...*

Якраз у Ражкоўцы завяршылі святочную багаслужбу з нагоды Усячэння галавы Іаана Хрысціцеля, вядомага ў народзе як *Головосек.* У царкве, праслаўленай цудадзейнай іконай, выстойвалі пятнаццаць старых. Частка векавых прыхаджан і харыстаў прысела на крэслах і лаўцы. Літургія згодна з характарам сумнатрагічнага свята, напамінала паніхіду. У працяглых мелодыях, адчуваўся стогн і нейкая адвечная траўма. Ды тут ніхто нідзе не спяшаў, не скарачаў тэкстаў, не прапускаў зваротак... Пры Херувімскай хор мо з пяць разоў паўтарыў фразу *Всякое ныне, ныне житейское...* Быццам спецыяльна працягваў кожную святочную хвіліну, кожны цудоўны момант набажэнства. Айцец Ігар цалкам зладзіўся з рытмам і танальнасцю хору. Яго малады, уражлівы голас явіўся адзінствам грамады і яго сумленнем. У час пропаведзі, калі на прыкладзе грэшнай Саламеі бацюшка папракаў за нездаровыя амбіцыі і недахоп сціпласці сучасны жаночы род, публіка амаль у ста працэнтах бабская, падтаквала галавой у знак згоды і праўды. Нейкі фемінізм ці свет гендар явіліся тут блюзнерствам!

У парафіі, да якой прыналежаць Ражкоўка, Хваянаўка, Асіннікі, Янушы, Вялічкавічы, Цярэсіны, Стаповіскі, Мшанкі, і Гарошкаўка, засталася ўжо няпоўная сотня вернікаў.

Бацюшка Ігар служыць яшчэ на парафіі ў Амелянцы, таму ў Ражкоўку з'яўляецца толькі ў назначаныя святы і нядзелі. І, вядома, на мярліны і паніхіды, якія ў парафіі сталі адзінай сямейнай падзеяй.

*— Здесь всё так проста, што простише вжэ некуда...* — кажа святар.

Ражкоўка вядомая на ўсю Беларусь з-за цуду Яўлення Божай Маці, якая з'явілася над пушчанскай вёскай 28 верасня 1942 года. У самы крытычны момант. Да таго прамовіла вуснамі нямецкага афіцэра, які на месца расстрэлу апусціўся з высі на самалёце. З-за самавітасці здарэння многія аўтары і даследчыкі цуду прыпісвалі яму «рускія карані», бачылі ў ім нашчадка царскага афіцэра, унука петлюраўца і г. д. На самой справе кашмар расстрэлаў і прымусовых перасяленняў спасцігаў кожную другую пушчанскую вёску. Ражкоўка аднак адзіная ў сваім родзе. Пасля цуду з удзелам нямецкага афіцэра, тут вокамгненна збудавалі царкву і асвяцілі яе ў гонар Казанскай Іконы Божай Маці.

* * *

Люба Лукашук з Кустаўца, 1929 года нараджэння, памятае як сёння той дзень:

— Дзень пасля Чэснага крыжа, мы з маці выйшлі капаць бульбу. А ў гары ўсё самалёт бурчыць. Наляцеў над Ражкоўку і круціцца як шэршань. Мінула колькі часу, зноў наляцеў, зноў круціцца ў тым месцы. А мы ж не ведаем, чаго ён круціцца! Капаем *картоплю* ды капаем. Усе тады баяліся расстрэлу. Наш Куставец таксама хацелі знішчыць за дапамогу партызанам. Аднойчы каля вёскі ішла перастрэлка, згарэў нямецкі танк. Адзін салдат неяк выкараскаўся з агню, ды ледзь жывы прыбыў да вёскі. Цэлы чорны, апалены. То людзі дапамаглі. Наказалі ўладам. Прыехалі немцы і забралі ў бальніцу. За гэтую дапамогу выратавалі вёску.

Пра здарэнне ад 28 верасня Люба пачула пазней, ад роднай цёткі, якая была замужам у Ражкоўцы. Ражкоўская Божая Маці, пра якую мясцовыя кажуць *Мадонна,* явіцца ёй з мацярынскай ласкай:

— Да яе на каленах трэба паўзці, — кажа старажылка, — бо яна святыня непабедзімая!

Айцец Ігар паказвае мне стэнд з архіўнымі фатаграфіямі ад 28 верасня 1942 года. Аказваецца, акупанты вялі дэталёвае архіваванне з месцаў расстрэлаў і пацыфікацый. Дакументы і здымкі паўтара года таму атрымалі з нямецкага архіва. У святле архіўных крыніц уся акцыя напамінала дакладна запланаваную і арганізаваную падзею. 26 верасня ў Белавежы ўзнік дакумент, у якім заранёў назначылі колькасць ахвяр, лік сканфіскаванага дабытку. Ад смерці былі вызвалены зацятыя ворагі бальшавізму і сям'я хлопца, які служыў у Вермахце. Магчыма, частка жыхароў ведала пра *мероприятие* (так у архіўных запісках завуць планаваны расстрэл), бо ў гэты фатальны дзень не прабывала ў вёсцы.


■ Па левым баку ад іканастаса, цудоўная ікона

Кашмар пачаўся дзень пасля Уздзвіжання Крыжа Гасподняга, на світанні. Ражкоўку акружылі дзве роты ў 120 салдат, якімі камандавалі два афіцэры. Карнікі ўварваліся ў хаты і назначылі дзве гадзіны на падрыхтоўку. За гэты час канфіскавалі 113 коней, 258 кароў, 450 авечак, 115 свіней і 363 куркі. Коні, рагатае быдла і свіней адправілі ў Белавежу. У правядзенні акцыі дапамагалі сяляне з навакольных вёсак з фурманкамі, якіх пазначылі белымі павязкамі на рукаве. У Белавежу на грузавых машынах адправілі таксама дзяўчат (ад 12 да 22 гадоў) і хлапцоў (ад 13 да 17 гадоў), разам 73 асобы.

— Іх пасартавалі, пасадзілі ў цягнік і практычна ўжо адправілі ў Германію, — спыняе на момант архіўны пералік айцец Ігар. Пра хапун распавяла яму пакойная парафіянка Марыя. Ёй было тады пятнаццаць гадоў. Праз усё жыццё не магла забыцца пра жах, які тады запанаваў у вёсцы. З'ехаць у Германію — значыла захаваць жыццё. Дык яна дзіка цiснулася ў машыну і запіралася рукамі, каб яе не скінулі, узялі. У сяле апавядаюць яшчэ пра маладзіцу, якая кінула дзіцятка і разам з моладдзю залезла на машыну. Ніхто не падаў віду — кожны хацеў выжыць. На ўсё жыццё наеліся страху.

* * *

Здарэнне ад 28 верасня 1942 года запамятала Лідзія Ландратава, 1939 года нараджэння. Жанчына, разам з іншымі бабулямі, выстойвала пасля багаслужбы каля царквы.

Лідзія апынулася ў ліку тых 156 дзяцей (ад 1 па 11 гадоў), якіх немцы размеркавалі па навакольных вёсках. Яе завезлі ў Пудомшы. Запамятала як перад дарогай маці ўваткнула ў рукі вузялок. А пасля падышоў немец і вырваў яе з матчыных рук, ударыў маці прыкладам і разам з іншымі пагнаў па вуліцы.

— Завезлі мяне ў нейкую хату, а там кажуць: *Гадаваць цябе будзем, нікому не аддамо*. Бо ў іх ёсць два сыны, а ты дзяўчынка... *ужэ будзэш наша*. І як сказалі — *будзэш наша,* я схапіла той вузялок і ходу з хаты. Забегла пад браму, прысела ды гляджу ў бок, адкуль мяне вывезлі. Але ж дзіцячае сэрца прадчувала! Я прасядзела пад тым *заборам,* колькі часу, паплакала, ажно бачу — сабака бяжыць. А ззаду бацька едзе. О Божа, якая то радасць была!

Яшчэ сёння ўспамін наклікае слёзы ў маёй субяседніцы. Пытаю адкуль такое прозвішча.

— Мой муж — казак з Кубані, — заяўляе ўжо з лагоднай усмешкай жанчына. — Прыехаў за мной у пушчу. Пасля таго, як мяне немцы вывезлі ў чужую вёску, я ўсё малілася да Божай Маці, каб такое ўжо не паўтарылася. Дык і атрымалася так як хацела, мужык пакінуў радзіму і за мной прыехаў...

— А ў мяне *польская* фамілія заяўляе баба Оля.

— А як вас завуць?

— Саевіч.

— Ну, гэта беларускае, пушчанскае прозвішча.

— Бо мой бацька прыйшоў у прыступы ад вас, з Вілюкоў, — паясняе баба Оля.

Жанчына нарадзілася 28 верасня 1942 года. Як сама скажа, нарадзілася пад карабінамі ў ямцы. Баба Оля не толькі жывы доказ цуду, але і асоба, якую ад смерці выратавалі звяры...

(працяг будзе)

ISSN 0546-1960